PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 12 (2080) ГОД XLI Беласток 24 сакавіка 1996 г. цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

# Змаганне за Мінск

Акт 25 Сакавіка 1918 года здзейснены быў пад нямецкай акупацыяй. Тым не менш, абвяшчэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі было б немагчымым, калі б беларускі нацыянальны рух не праявіў жыццяздольнасці яшчэ да з'яўлення немцаў.

Калі 18 лютага немцы пачалі наступленне, Мінск быў поўнасцю ў руках бальшавікоў. Усе беларускія ўстановы былі раней разагнаны, частка дзеячаў арыштавана.

Немцы вельмі хутка набліжаліся да Мінска, бо дэмаралізаваныя бальшавіцкай агітацыяй франтавыя расійскія войскі адступалі амаль без бою. Таму Савет народных камісараў Заходняй вобласці і фронту ноччу з 18 на 19 лютага вырашыў пакінуць Мінск.

Каля поўдня 19 лютага вестка аб набліжэнні немцаў дайшла да шасці зняволеных сяброў кіраўніцтва Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады. Ім удалося ўцячы з гаўптвахты і пасля дзвюх гадзін сустрэліся ў доме Антона Лявіцкага — вядомага пісьменніка Ядвігіна Ш. Праз наступную гадзіну тут пачалося нечарговае пасяджэнне Выканкама Белвайскцэнтррады. Беларускія вайскоўцы вырашылі пераняць ахову парадку ў горадзе і перадаць уладу Радзе І Усебеларускага З'езду. Камендантам горада назначаны быў капітан Канстанцін Езавітаў.

Групкі беларускіх вайскоўцаў і прафсаюзных дзеячаў (чыгуначнікаў, тэлеграфістаў і інш.) рушылі каля гадзіны 21.00. Пачаліся першыя сутычкі з бальшавікамі, па вуліцах панесліся гукі выстралаў. Праз паўгадзіны беларусы занялі арсенал, дом губернатара і гасцініцу „Еўропа", дзе знаходзілася галоўная сядзіба бальшавіцкіх улад. Старшыня Савета народных камісараў Карл Ландар уцёк з будынка чорным ходам, у момант калі парадным ходам уварваліся беларускія паўстанцы.

Бальшавіцкія камісары не маглі ўсётакі выехаць з горада, бо па загаду капітана Езавітава не пускалі іх беларускія чыгуначнікі. Была нават зроблена спроба ўзарваць цягнік з камісарамі, але сышлі з рэек усяго два вагоны. Толькі як бальшавікі прыгразілі артылерыйскім абстрэлам, іх адпусцілі.

Каля гадзіны 22.00 беларускае камандаванне размясцілася ў доме губернатара, а ўсе беларускія атрады сканцэнтраваліся вакол Пляца Волі (колішняй Саборнай Плошчы).

Тады выявілася, што ў горадзе ёсць яшчэ адзін прэтэндэнт на ўладу — палякі.

Чатырох польскіх вайсковых дзеячаў сабраліся ў 16.00 гадзін у шаўца Дабрашчыца. У 19.00 яны, ужо ў сем чалавек, вырашылі пачаць дзеянні супраць бальшавікоў. Камендантам горада назначаны быў капітан Ігнацы Матушэўскі. Добраахвотнікаў сабралася 343, але прынеслі яны толькі 27 руждаў.

Палякі, як і беларусы, выступілі каля гадзіны 21.00. Спярша ўзялі адзін са складаў зброі. Дзякуючы таму маглі ўзброіць больш за 200 добраахвотнікаў. Калі беларусы сабраліся па Пляцы Волі, палякі займалі чарговыя стратэгічныя пункты ў горадзе. Каля поўначы адабралі ў беларусаў арсенал. Адносіны абвострыліся да такой ступені, што пагражала ўзброенае сутыкненне.

На другі дзень палякі выпхнулі беларусаў са значнай часткі горада. Абодва бакі чакалі падмогі з-па-за Мінска, але не дачакаліся. 21 лютага, у 11.00 гадзін, у горад увайшоў раз'езд нямецкіх кірасіраў.

Гэтага самага дня Выканкам І Усебеларускага З'езду выступіў з Першай Устаноўчай Граматай, у якой абвясціўся часовай уладай у Беларусі. Выканаўчая ўлада перададзена была Народнаму сакратарыяту Беларусі, які ўзначаліў Язэп Варонка, ураджэнец Сакольшчыны. Немцы абяззброілі беларускія атрады толькі 25 лютага. Загадалі таксама Выканкаму І Усебеларускага З'езду пакінуць сваю сядзібу ды канфіскавалі яго касу і скінулі з дома губернатара на зямлю бел-чырвона-белы сцяг. 27 лютага з горада выйшлі польскія атрады.

Такім чынам, беларусам не ўдалося ўтрымаць самастойнай улады ў Мінску, дый гэта было немагчымым. Нельга забываць пра абставіны, у якіх адбываліся падзеі ў Мінску ў лютым 1918 года. У мірны час беларусы ў статысячным Мінску былі толькі чацвёртай нацыянальнасцю. Больш было яўрэяў, рускіх і палякаў. У час вайны горад запоўніўся вайскоўцамі з усёй Імперыі. Толькі дзякуючы таму, што расійскія салдаты думалі перш за ўсё аб уцёках, мажлівым быў поспех дасягнуты 19 лютага жменькай паўстанцаў. Трэба таксама помніць аб тым, што мінскіх палякаў натхняла надзея на хуткую дапамогу з боку І Польскага корпуса, якога атрады стаялі менавіта недалёка ад Мінска. Тым часам Беларускі корпус знаходзіўся ажно ў Малдавіі. Па яго атрады пасланы былі з Мінска спецыяльныя цягнікі, але ж чакаць іх было дарма.

Нягледзячы на цяжкія абставіны, беларусы не драмалі. Са зброяй у руках заявілі аб сваім праве на свабоду.

**Алег Латышонак**

Ларыса Геніюш

## Наш сцяг

Не слава Краю, ўздым магутны,
нат не шумелі мне сцягі...
Заместа іх звінелі путы
і цёмнай ноччу ланцугі.
Заместа водгулля Пагоні
яшчэ сягоння, як крумкач,
у набалелым сэрцы звоне
жанчыны беларускай плач.
Дзявочы твар бляды ад жалю,
дзяцей спалоханы пагляд
і кроў братоў, што бунтаваліся —
я толькі гэткі знаю сцяг!..
За жар душы, што набалела,
за сэрца зораны агонь,
я, Божа, чуць хоць раз хацела б
шум сцягу вольнага свайго.

## Краю мой

Краю мой родны, краю мой мілы,
цудны, узорны, ад ніў залаты,
хто цябе ўквеціў пушыстай калінай,
краскамі, лесам засеяў густым?
Пушчы, палеткі, лугі, сенажаці,
быстрыя рэкі, прасторы азёр, —
нехта рассыпаў вялікім багаццем
вечныя скарбы ў цудоўны узор.
Калі табе золатам сонца разлітым
магутныя грудзі асыпле кругом,
а неба атуліць туманам-блакітам,
быццам бы анял празорным крылом,
і вецер бяроз тваіх косы даўгія
расчэша, рассыпле па белых камлёх,
а грушы-красуні страсе снегавыя,
цвет белы пасее на зелень палёў,
а буйныя травы нагне, то падыме,
зазвоніць аб лісце задуманых дрэў,
акордамі ўдарыць, як май, маладымі,
пад Нёмна вясною бурлівы напеў, —
дык радасцю, шчасцем душа заміраe
і хочацца сэрцам, рукамі абняць,
свой край наймілейшы, аквечаны маем,
дзе краскі, дзе Нёману хвалі звіняць.
Дзе птушка у неба высокім палётам
маніць да сонца ў блакіты з сабой,
узыходзіць, мацнее з сялянскага поту
зярнё, вырастае ў калоссе вясной.
Краю мой родны, краю мой мілы,
калыска дум ранніх, вясёлкавых дзён,
краю дзядоўскіх курганных магілаў, —
ты сэрцу так мілы, як міла жыццё.
Сніцца ты будзеш, ўсё клікаць з чужыны,
маніць у свае сёлы, да хаты старой,
пахучым палеткам буйной канюшыны,
дзявочаю песняй спавітай тугой.
Чало плуг жыцця можа ў баразны зрэжа,
мо' голаву іней пакрые гадоў, —
у сэрцы ж не звянуць зялёныя межы,
туга не аслабне да родных кутоў.

# Мы прачыталі

*Ponad trzy czwarte Polaków nie rozumie tego, co czyta albo rozumie w minimalnym stopniu. Zaledwie 3 proc. naszych rodaków zalicza się do grona osób, które w pełni rozumieją tak niewyszukane teksty, jak prognoza pogody lub instrukcja obsługi jednorazowej golarki. Ponad 30 proc. polskich nauczycieli nie czyta niczego poza podręcznikami, których używa. 200 tys. młodych ludzi leczy się w poradniach zdrowia psychicznego, ponad 0,5 mln jest uzależnionych od alkoholu i narkotyków. Gdyby zastosować surowe kryteria oceny wobec ubiegających się o prawo jazdy, trzy czwarte z tych, którzy nie przekroczyli 21 roku życia, nie mogłoby prowadzić pojazdów. Te fatalne tendencje pogłębia fakt, że w Polsce na jednego ucznia szkoły ogólnokształcącej przypadają trzy osoby uczące sie w zawodówkach. Ten typ szkół okazał się fabryką bezrobotnych. Prawie 60 proc. uczniów ne potrafi czytać ze zrozumieniem i tyle samo nie może przyswoić działań z algebry na poziomie ułamków. Tak wykształcona młodzież zasili klasę pariasów, roszczeniowy lumpenproletariat. Już dziś mamy w Polsce do czynienia ze skumulowaniem ciemnoty, a przerażające jest to, że nikogo ten stan rzeczy nie drażni.*

*Wprost, nr 9*

***

*W 1994 r. państwo dopłaciło do górnictwa węglowego 10 bln zł. Zadłużenie tej branży w październiku 1995 r. wynosiło 46,7 bln zł. Kopalnie nie płacą składek ZUS i podatków, górnicy domagają się pieniędzy na płace. Straty górnictwa w 1995 r. wyniosły 888 mln nowych złotych i były o 90% wyższe niż w 1994 r. Przeciętne wynagrodzenie w kopalniach wynosiło 14 mln zł i było o 27% wyższe niż w 1994 r.*

*Wprost, nr 9*

Ці ж Ленін не меў рацыі, абвяшчаючы, што рабочы клас будзе абараняць сацыялізм да апошняй кроплі крыві.

***

*У будынку гістарычнага факультэта Беларускага універсітэта лукашэнкаўскі герб і сцяг павесілі у фае на больш бяспечнай вышыні. Такія меры перасцярогі адміністрацыя вымушана была прыняць пасля інцыдэнту, які здарыўся 6 лютага, калі нехта падпаліў лукашэнкаўскі сцяг. Міліцыя пакуль што не знайшла падпальшчыкаў. Тым часам павешаны ў фае лукашэнкаўскі сцяг скралі і гэта тады, калі выйшаў загад прэзідэнта паўсюль развесіць сімволіку рэжыма. Цяпер давядзецца патраціць грошы на яе ахову.*

*Свабода, н-р 10*

***

*Trzykrotnie większe opodatkowanie płac w Polsce niż w innych krajach połączone z wielokrotnie niższymi płacami oraz bardzo dużym bezrobociem tworzą warunki idealne do rozwoju gospodarczego podziemia. Ustawowe obciążenia płac w Polsce wahają się od 70 do 94%, w USA — 19,4, Japonii — 17,6, Grecji — 16,5, Niemczech — 25,9, Francji — 25,4 proc.*

*Polityka, nr 9*

Калісь актуальны быў лозунг: „Cały naród buduje swoją stolicę", сёння: „Cały naród robi zrzutę" — афіцыйна на школы, культуру, ахову здароўя і г.д. , неафіцыйна — на стварэнне новага класа капіталістаў, бо пару гадоў таму вырашылі, што ўжо хопіць сацыялізму. Усе асталіся на сваіх месцах — „elyty" і „robole" — а капіталізм усё-такі будуецца. З'явіўся ўжо рынак, маем беспрацоўе, ёсць прэзідэнт і апазіцыя. Толькі плата і падаткі ў нас надалей сацыялістычныя. Змянілася толькі назва падаткаў. Раней быў гэта „pierwotny podział indywidualnego funduszu spożycia". Прыгажэй чым „падатак", праўда?!

***

*W Komunistycznej Partii Litwy, która liczyła 220 tys. członków, było 3% komunistów, a reszta to byli normalni ludzie, normalni Litwini. Cały litewski ruch narodowy zaczął się od tych 97% członków partii komunistycznej, którzy byli bardziej Litwinami niż komunistami. Gdy w 1988 r. powstawał Sajudis, 50% władz ruchu stanowili członkowie partii,* — сказаў прэзідэнт Літвы Альгірдас Бразаўскас.

*Gazeta Wyborcza, nr 53*

Каб сярод мільёна членаў Камуністычнай партыі Беларусі было хаця 3 працэнты беларусаў!

***

*W czasach saskich często jeździło się saniami do krewnych i znajomych mieszkających w sąsiedztwie i siedziało się tak długo, jak długo było co jeść i pić. Potem brało się ogołoconych sąsiadów i wspólnie kuligiem jak szarańcza przenoszono się do innych sąsiadów. Zżerano niesamowite ilości gęsi, kaczek, kuropatw, zajęcy, kur, kogutów, prosiaków, bobrów, jeleni, żubrów, turów i wszystkiego co się w pobliżu ruszało. Popijano winem, gorzałą i wszystkim co tam kto miał w piwnicy, śpiewając przy tym piękne pieśni biesiadne „Pij, bracie, pij", „Pije Kuba". Raczono wszystkie zmysły, ze zmysłem słuchu włącznie, ponieważ oprócz śpiewania, cmokano, mlaskano, siorbano, a na zakończenie bekano przeciągle, co było przyjęte jako wyraz ukontentowania, nie zaś braku wychowania. Dopiero po beknięciu zwalano się pod stół (bekanie na leżąco po takim obżarstwie mogło być niebezpieczne dla życia). Rano wszyscy budzili się we wspólnej sypialni, to znaczy pod stołem, i po krótkich powitaniach zasiadano do śniadania, zaczynając od przepłukania gardła. To były piękne czasy,* — піша Ян Качмарэк.

*Kurier Poranny, nr 52*

***

*Сабраў Бог трох прэзідэнтаў — Клінтана, Ельцына і Лукашэнку — і паведаміў, што праз дзесяць дзён будзе канец свету. Трэба аб'явіць пра гэта суграмадзянам. Клінтан выступіў па тэлебачанні: „У мяне ёсць дзве навіны — добрая і дрэнная. Добрая — што Бог усё-такі ёсць, а дрэнная — што хутка будзе канец свету". Ельцын: „У мяне дзве дрэнныя навіны: Бог ёсць, і праз дзесяць дзён — канец свету". І Лукашэнка: „У мяне дзве добрыя навіны: мяне прызнаў сам Гасподзь Бог, і я буду кіраваць да канца свету".*

*Звязда, н-р 46-47*

# З мінулага тыдня

**Польскі і беларускі бакі** распрацоўваюць планы будовы новага гранічнага перахода **Дубніцы — Хварасцяны**, які будзе дубліраваць суседнія пагранпераходы ў Кузніцы-Беластоцкай і Баброўніках. Будова перахода ў Хварасцянах будзе цесна звязана з дарожнымі інвестыцыямі на беларускім баку, між іншым з будовай акружнай дарогі вакол Гродна. У будучыні прадугледжана адкрыццё пераходаў для мясцовага руху ў Такарах і Крынках. Адной з важнейшых інвестыцый польска-беларуская камісія прызнала будову магістралі Баранавічы — Ваўкавыск — Беласток — Варшава.

**Беластоцкі ваявода Анджэй Гаеўскі** атрымаў папярэднюю згоду міністра транспарту пачаць мадэрнізацыю і перабудову дарогі з Беластока да гранічнага перахода ў Баброўніках. Перабудова патрабуе 300 млрд. ст. зл. Грошы для гэтай мэты выдзеліць Фонд „Phare".

**Сіндэсмас** — Сусветнае брацтва праваслаўнай моладзі — мае свяю сядзібу ў Беластоку. У сувязі з выбарам беластачаніна **Уладзіміра Місіюка** генеральным сакратарам гэтай арганізацыі, Генеральны сакратарыят Сіндэсмасу быў перанесены з Парыжа ў Беласток. Змяшчаецца ён цяпер пры Свята-Духаўскім прыходзе, а ўрачыстасць асвячэння памяшканняў узначаліў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**. Пасля афіцыйнай інаўгурацыі ў Супраслі адбылося пасяджэнне Адміністрацыйнай рады Сіндэсмасу, на якім абмяркоўваліся напрамкі дзеяння арганізацыі на бліжэйшую будучыню.

**Абеліск** для ўшанавання пакутаў кялецкіх яўрэяў і асоб, якія дапамагалі ім у час вайны, будзе неўзабаве адкрыты перад былой сінагогай у **Кельцах**. Помнік узводзіцца на грошы гарадскога самаўрада з нагоды 50 гадавіны кялецкага пагрому. На трохметровым валуне, завершаным зоркай Давіда, будзе высечаны надпіс на польскай і ангельскай мовах: „Pamięci 27 000 Żydów z kieleckiego getta, zamordowanych przez Niemców w latach 1939—44 w Kielcach, Treblince i innych obozach zagłady — społeczeństwo Kielc".

**Куратория асветы** адобрыла прапановы гмінных самаўрадаў аб закрыцці з верасня г.г. трынаццаці пачатковых школ у Беластоцкім ваяводстве. Куратория адмоўна паставілася да планаў ліквідацыі школы ў **Нурцы**, што ў Боцькаўскай гміне.

**Урад Даніі** выказаў зацікаўленне паляпшэннем стану аховы натуральнага асяроддзя ў Беластоцкім ваяводстве. На сустрэчы прадстаўнікоў Ваяводскай управы і дацкага фонду, які падтрымоўвае экалагічныя акцыі, беластачане прапанавалі спонсарам прызначыць грошы з мэтай аблясення Беласточчыны (у ваяводстве трэба абсадзіць дрэвамі 20 тысяч гектараў, а бюджэтных грошай хапае толькі на 250 га). Датчане прыхіляюцца даць грошы на догляд лесу ў Кнышынскай і Белавежскай пушчах. Экалагічны фонд з Даніі дапамог ужо фінансаваць пабудове ачышчальні сцёкаў у Міхалове.

**Самы вялікі цыклон** — прыстасаванне для вылаўлівання з паветра ўсялякіх забруджванняў — паўстае ў прадпрыемстве „Instal" у Беластоку для Прадпрыемства драўніннастружкавых пліт у Граеве. Машына будзе ачышчаць паветра ад пілавіння. Яе памеры: дыяметр — 9 метраў, вышыня — 26 метраў, вага — 64 тоны, аб'ём — 1000 кубаметраў.

## Неўзабаве ў „Ніве"

⇨ **Успаміны бежанцаў** — з Рудні, Трасцянкі і Баравых.
⇨ **На польска-беларускай мяжы** — назіранні Міколы Ваўранюка.
⇨ **Ці Беларуская сялянска-работніцкая грамада была ўкраінскай партыяй?** — разважанні Славаміра Іванюка.

# Весткі з Беларусі

**Непадсудны прэзідэнт**

У Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь распрацоўваецца праект закона аб абароне гонару і годнасці прэзідэнта РБ, у якім мяркуецца акрэсліць механізм прад'яўлення грамадзянскіх іскаў да прэзідэнта. У сувязі з гэтым адміністрацыя кіраўніка дзяржавы звярнулася да старшыні Вярхоўнага Суда з просьбай прыпыніць разгляд справаў па грамадзянскіх исках, якія прад'яўлены да Лукашэнкі і знаходзяцца ў розных судах рэспублікі.

**Без Беларусі няма Еўропы**

Адзінай Еўропы без Беларусі не бачу, заявіў прадстаўнік Злучаных Штатаў Амерыкі ў Еўрапейскім Саюзе Сцюарт Айзенштат, дзелячыся з журналістамі думкамі па выніках сваёй сустрэчы са старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім. Вядомы амерыканскі дыпламат прыбыў у Беларусь для таго, каб вызначыць магчымасць утварэння свабоднага калідора для руху тавараў і паслуг праз Беларусь у Заходнюю Еўропу і назад без высокіх пошлін. Ён таксама закрануў перспектыву ўступлення Беларусі ў ЕС і падпісання ўзаемнага дагавора аб інвестыцыях.

**Заклапочанасць моваЙ**

Фракцыя камуністаў Вярхоўнага Савета сустрэлася з міністрам адукацыі і навукі Васілём Стражавым, каб праясніць сітуацыю, што склалася ў школах з навучаннем на беларускай мове. Такая цікавасць выклікана вынікамі майскага рэферэндуму. Пасля таго, як бацькам дазволілі выбіраць мову, на якой будзе весціся навучанне дзяцей, рэзка скарацілася колькасць беларускіх класаў. Лідэр камуністаў Сяргей Калякін рашуча выказаўся за далейшае развіццё і ўдасканаленне сістэмы навучання на беларускай мове.

**Менск без нунцыя**

Ватыкан адклікаў акрэдытацыйныя граматы свайго пасла ў Беларусі архіепіскапа Аўгусіна Маркета. Гэта выклікана пагаршэннем стану яго здароўя. Мяркуецца, што іншага нунцыя Ватыкан прызначыць не раней як у канцы лета гэтага года.

**Прэзідэнцкія віншаванні**

Нядаўна ў рэспубліцы адзначаўся Дзень міліцыі. Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з прафесійным святам асабовы састаў беларускай міліцыі. У віншаванні ў прыватнасці гаворыцца: „Першыя вынікі гэтага года ўсяляюць упэўненасць, што міліцыя зможа павысіць вынікі сваёй работы, на высокім прафесійным узроўні выкрываць арганізаваныя групы, раскрываць і расследаваць самыя складаныя злачынствы".

**Гранічнае новаўвядзенне**

На польска-беларускай мяжы яшчэ адно новаўвядзенне. Цяпер праз яе не праедзе ні адзін сродак, у якога няма ліцэнзіі на міжнародныя перавозкі. Дарэчы, нават звычайны пасажырскі аўтобус можа атрымаць ад варот паварот, калі праход паміж радамі крэслаў не будзе свабодны ад сумак, цюкоў і іншай непад'ёмнай паклажы.

**Стагоддзе Крапівы**

5 сакавіка споўнілася сто гадоў з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы. Напярэдадні ў Дзяржаўным аб'яднані літаратурных музеяў Беларусі адбылася прэзентацыя выставы „Крапіва вядомы і невядомы". Яе наведвальнікі мелі магчымасць пазнаёміцца з малавядомымі старонкамі творчай дзейнасці Крапівы. У дзень гадавіны ў Нацыянальным драматычным тэатры імя Янкі Купалы прайшоў урачысты вечар прысвечаны стагоддзю паэта, пісьменніка, вучонага, грамадскага дзеяча, патрыёта Кандрата Крапівы.

**Мастацкі поспех**

Хутка стануць вядомымі шырокай сусветнай грамадскасці імёны трох беларускіх мастакоў, якія прымалі ўдзел у выстаўцы-конкурсе „Свет, у якім ты жывеш". Яна прысвячалася сусветнай канферэнцыі ААН па населеных пунктах „Habitat II", што адбудзецца ў чэрвені 1996 года ў Стамбуле. Першая прэмія прысуджана Ягору Батальёнку за карціну „Повязь". Уладзімір Тоўсцік за работу „Унутранае святло" ўдастоены другой прэміі. Трэцяя дасталася Леаніду Шчамялёву за палатно „Белы конь у горадзе". Карціны адправяць у Нью-Йорк для дэманстарацыі ў штаб-кватэры ААН. Пасля гэтага яны будуць прадстаўляць беларускую школу жывапісу на сусветным форуме ў Стамбуле.

# У супрасльскай „спальні”

Пішу за пісьмовым сталом, зробленым у супрасльскай сталярна-мебельнай спулдзельні. Гэты кааператыў якраз паў. Трымаецца затое прыватная фірма, якая пераняла раней частку маёмасці згаданай спулдзельні — г.зв. старую сталярню. Працуе тартак і швейны завод. Буйнейшай прамысловасці тут няма, ёсць крыху рамесніцтва, крыху сельскай гаспадаркі. Мястэчка Супрасль, у якім жыве 4440 людзей, усе называюць „спальняй Беластока”.

У вёсках гміны Супрасль жыве 6220 людзей. Тэрыторыя гміны вызначана адміністрацыйным шляхам: з гэтай прычыны вельмі неаднародная з сацыяльна-эканамічнага пункту гледжання. Можна тут вызделіць некалькі абшараў, якіх сутнасць акрэсленая адлегласцю ад Беластока.

Усё, што на той бок Супраслі: Лазні, Падлазні, Сакалда, Падсакалда, Вароннічы — адмірае. У самай вялікай вёсцы, Лазнях, жыве 75 людзей. Да таго 40 пенсіянераў у доме „спакойнай старасці”.

Інакш выглядае дэмаграфічнае становішча ў вёсках між Супраслю і Беластокам. Тут можна выдзеліць наступныя раёны:

Раён Агародністкі (420 жыхароў), Цеснае (233), Каракулі (452). Агароднічкі становяцца нечым накшталт гарадскога пасёлка, выдзелены ўжо вуліцы. У гэтым раёне будуюцца або прадугледжваецца пабудова цэлых кварталаў аднакватэрных дамоў. Праз некалькі гадоў Беласток безумоўна праглыне гэты абшар.

Калёнія і вёска Грабаўка (адпаведна 908 і 799 жыхароў) ды калёнія і вёска Засценкі (1040 і 677 жыхароў) — гэта практычна прыгарады Беластока.

Апошні раён — гэта калёнія і вёска Сабалева (250 і 581 жыхар), Генрыкова (216) і Саўляны (202 жыхары).

Усе тры названыя раёны звязаныя з Беластокам інфраструктурай. Даязджаюць тут гарадскія аўтобусы.

У Грабаўцы і Засценках найбольш прыватных фірмаў (галоўным чынам рамесніцкіх). Яны ўносяць найбольш падаткаў у гмінную казну. Тутэйшыя прадпрымальнікі і жыхары крыўдавалі, бачучы надзвычайны размах будаўніцтва інфраструктуры (газ, калектар сцёкаў, кабельнае тэлебачанне, тэлефанізацыя) у мястэчку Супрасль пры папярэднім бурмістры. Кажуць, яны яго і скінулі. Тым не менш, напружанне ў адносінах Супраслі з прыгарадамі Беластока надалей адчуваецца.

На штодзённым лакальных спрэчак ды сварак накладаецца раз на нейкі час вядомая на ўсю Польшчу праваслаўна-каталіцкая спрэчка за Супрасльскі манастыр. Цяпер праваслаўныя задаволеныя апошнім рашэннем урада, які аддаў манастыр Праваслаўнай царкве. Дый тутэйшыя каталікі не надта сумуюць. Хопіць ім турбот з рамонтам перададзенай кірхі ў Супраслі. Рамонт доўжыцца ўжо шосты год без відавочных эфектаў.

Праваслаўных у гміне нямала, хаця яны тут меншасць. У манастырскім прыходзе ў Супраслі каля паўтары тысячы душ. Падобна ў Свята-Панцеляймонаўскім прыходзе ў Засценках. Такім чынам праваслаўныя састаўляюць трэцюю частку насельніцтва гміны. Разам з пабудовай новых прыгарадаў Беластока, удзел праваслаўных яшчэ паменшыцца, але агульны лік можа ўзрасці. Сяліцца ж будуць таксама праваслаўныя. Таму архімандрыт Супрасльскай лаўры, айцец Мірон, спакойны за будучню праваслаўя ў наваколлі.

Інакш выглядае справа з беларушчынай. У мястэчку Супраслі беларускай мовы ўжо не пачуеш. Прыпамінаецца падслуханае калісь басаўцамі ў праславутым рэстаране „Яжэмбінка” (яго таксама ўжо няма). Размова тутэйшых аматараў піва сышла на жудасную смерць нейкага тубыльца, зарэзанага невядома кім. Хтосьці прабаваў растлумачыць афіцыянтцы, хто быў той нябожчык. Расказаў, дзе той жыў, што рабіў, нарэшце сказаў: „No ten, co ostatni w Supraślu po prostemu mówił”. Тады толькі афіцыянтка сцяміла, пра каго гаворыцца. Зямля яму пухам, апошняму.

Сям-там усё-такі беларушчына трымаецца. Пра праявы беларушчыны ў галіне культуры запытаў я старшыню гміннай рады культуры, Яна Жмойду. Спадар Жмойда, дырэктар спартыўнай пачатковай школы, вёў якраз маладзёжныя спаборніцтвы ў гонках на лыжах (гэты спорт у Супраслі вельмі папулярны.)

Старшыня сцвердзіў, што пакольні з ініцыятывамі ў галіне беларускай культуры ніхто да яго не выступае, дык і грошай з гміннага бюджэту на яе не адводзіцца. Выключэнне складае агародніцкі калектыў „Журавінкі”. Гміна вяртае ім кошты праездаў. Пытаюся ў старшыні, ці ведае, што ў ягонай гміне ёсць найлепшы беларускі рок-гурт у Польшчы. Маецца на ўвазе засценкаўскі „Кардон”. Спадар Жмойда пра рок-гурт не чуў, ды наогул крыху сумняваецца ў тым, ці рок-музыка гэта культура. Раіць пагаварыць з засценкаўскім радным Станіславам Каханоўскім, бо ён увесь час наракае, што ў Засценках няма культуры.

Радны Каханоўскі ведае, што суседскія хлопцы граюць. Называе нават прозвішчы. Чуў ад сына, што добра выступілі ў беластоцкім АЦК. Паводле яго, гэта ў Супраслі кажуць, што ў Засценках няма культуры, а гэта добра, што хлопцы граюць. Таму ён і змагаецца, каб у Засценках было памяшканне, дзе такія хлопцы маглі б сустракацца. Абяцае пазмагацца за інструменты для хлопцаў, але баіцца, што супрасльскія і так яго пераагаласуюць.

Аб змаганні гаворыць таксама Ніна Аўгустыновіч, кіраўнік калектыву „Журавінкі”. Спярша змагаліся за памяшканне вясковага клуба, які гміна хацела прадаць нейкай жанчыне, бізнесменцы ад піва. Хадзілі па вёсцы, збіралі подпісы. Старыя людзі абураліся, як гэта так. Яны ж самі цэглу цягалі на пабудову. З увагі на „Журавінкі” клуб пакінулі. Цяпер зноў ходзяць чуткі, што клуб хочуць перадаць пад пошту.

За машыну на выезд кожным разам трэба змагацца, і за кожны грош. „Заходжу ў гміну, — расказвае спадарыня Аўгустыновіч, — а сакратарка кажа: „I znowu te „Żurawinki”. — Czego pani narzeka, — пытаюся, — Dwadzieścia lat zespół istnieje i nic od was nie dostaliśmy”.

Каб купіць вянкі і фартухі з вясковых грошай пазычылі 2,5 млн. Ездзілі ў гміну пытацца, ці дадуць на строі. Кажуць людзі, знайшоўся радны, які сказаў: „Jak to, będziemy jeszcze białoruskie zespoły finansować, jak mamy swoje”. Толькі агародніцкі радны Міраслаў Матэйчук стараецца ім памагчы. Дык напісалі пісьмо, каб выдзелілі ім 20 млн. і чакаюць на адказ. Так ці інакш, рук не апускаюць, а калектыў расце. Дайшлі дзве „дзяўчаты” (ім менш за 60) з Супрасля і іх цяпер адзінаццаць.

Усё-такі, каб прыцягнуць маладыхх, трэба прыняць нейкія незвычайныя меры. На маю думку, такім крокам быў бы супольны канцэрт „Журавінак” і „Кардона”. Атрымалася б сапраўдная падзея: уся беларуская культура ў гміне Супрасль у адным месцы.

**Алег Латышонак**



*„Журавінкі” з Агароднічкаў спявалі сёлета калядныя песні на сцэне Міхалоўскага дома культуры.* Фота Ады Чачугі

**Ева Сцепанюк**

# Сама ў бардак прыйдзеш!

**Олю злавілі на вуліцы. Сілком увапхнулі ў машыну, завезлі ў гасцініцу і сем разоў згвалтавалі.**

Быў час карнавалу. За фіранкамі бліскэлі ёлачныя лямпкі, ішоў снег, людзі развіталіся навагоднімі пажаданнямі. Агнешка, Марта і Оля, карыстаючыся канікуламі, рашылі пагуляць на вясковай забаве.

— Оля сустрэла нас на аўтобусным вакзале, — успамінае Агнешка. — Было яшчэ шмат часу і мы пайшлі пaглядзець прывакзальныя крамы. Непадалёк стаянкі таксі Агнешка пачула, як нехта цягне яе за косы. А яе сяброўку Олю, як немаўля нясуць у белы „Мерседэс”.

— І я сама не ведаю, як вырвалася, — успамінае дрыжачым голасам ліцэістка. — Хіба таму, што толькі адзін на мяне напаў. Олю запынілі два тыпы ў скураных куртках.

Агнешка і Марта былі ў шоку. Астаткамі сіл уцямілі, што трэба нешта рабіць. Селі ў таксі і загадалі ехаць за белым „Мерседэсам”. Але машына з Оляй незаўважна знікла.

Пра гэтых трох, што ўхапілі Олю, Агнешка раней ужо чула. Расказвалі, што крадуць усё — ад шкарпэтак па зброю, і што выкрадаюць і гвалтуюць дзяўчат.

* * *

— Мой сынок ніколі такога не зрабіў бы, — гаворыць маці 19-гадовага Адася К. — Ён добры, спакойны хлопец, а ў вёсцы не сядзіць, бо тут яго аднагодкі толькі п'юць.

Пані К. давярае сыну, бо ён такі, што апошнім падзеліцца. Аднойчы сказаў, што мусіць мець заходнюю машыну.

— Буду цябе кожную нядзелю ў касцёл вазіць, — успамінае маці Адася.

Сама яна ўдавіца і не наракае, што адна займаецца 20-гектарнай гаспадаркай.

— Бо сын малады і мусіць свету пабачыць, — аргументуе пані К.

Марак Д. таксама ў вачах сваёй маці анёлік. Нават пакінутая ім жонка з паўтарагадовым дзіцянём не верыць, што „Марэк был бы до тэго здольны”. І ў бацькоў Лукаша Т. таксама самая высокая думка аб іх адзіным сыне.

— Лукаш калісь у касцёле прыслужваў, — уздыхае маці, фарбаваная бландзінка. — Усе ў вёсцы гадалі, што сын на ксяндза пойдзе вучыцца.

* * *

Разведка ў асяроддзі кішэнных аўтобусных зладзеяў спрыяе незвычайным знаёмствам.

— „Краўцы” (бо так паводле беластоцкай школы называюць сябе кішэнныя зладзеі) такога не зрабілі б, — каменціруе маладзенькі Кастусь.

— Адась?, — шукае ў сваёй перапоенай памяці чырвонашчокі Кастусь.

Юнаку няма яшчэ васемнаццаці то і карыстаецца бяскарнасцю. Яго дзіцячую фізіяномію пляміць агрэсіўны позірк.

— Самае галоўнае ў жыцці — гэта „шмаль”, — чую жыццёвае крэда Кастуся.

Пасля чацвёртага піва Кастусь яшчэ больш дзяцінее, як з рукава вытрасае вядомыя сабе мянушкі калег па кішэннай прафесіі:

— А гэтыя дупкі то „Бжыдаль”, „Беляк” і „Пеця”. За нейкую п... сядзяць, „дупкі”, — абураецца Кастусь і прадказвае горда: — Кожны „кравец” калісь пападае ў „паку”.

Кіруе мяне яшчэ ў рэстаранчыкі „Магнат”, „Барылку”, „Аню”, гасцініцу „Лесьны” або „Карчму Слупскую”, бо там заўсёды можна сустрэць „краўца”.

* * *

Белы "Мерседэс" затармазіў побач гасцініцы „Пакполь”. Олю завалаклі ў пакой. „Бжыдаль”, „Беляк”і „Пеця” наймалі там трохмесны пакойчык.

— Найперш пачалі есці, — расказвае ліцэістка. — Жэрлі нейкія каўбасы, цыбуліну, агурцы. А пазней, быццам па камандзе, дагала распрануліся.

Не звярталі ўвагі на плач перапалоханай насмерць дзяўчыны.

— Як будзеш ціха, то нічога табе не зробім, — паказаў Олі нож „Бжыдаль”.

Ён першы згвалтаваў дзяўчыну. Сябры „Бжыдаля” добра гулялі, рагаталі, падпальвалі гвалтаўніку пяткі, або звалакалі яго з ледзь прытомнай дзяўчыны. Калі Оля губляла прытомнасць, вялі яе пад зімны душ і далей па чарзе гвалтавалі. Кашмар трываў паўтары гадзіны. Пасля гэтага здарэння юнакі мелі багатыя планы.

— Завязем на забаву, напоім, і будзем зарабляць на табе, — смяяліся з чуць прытомнай гімназісткі. — А пазней сама ў бардак прыйдзеш!

* * *

У час судовага разбору „Бжыдаля” і „Беляка” прыгаварылі да пяці гадоў зняволення. Юнакоў доўга шукалі па-за межамі Польшчы. Гэтых двух дэпартавалі з Нямеччыны. Апошняга, „Пецю”, пакуль што не знайшлі.

Абвінавачаны Адам К., „Бжыдаль”, меў просты адказ:

— Мы ёй далі па пяцьсот злотаў, а яна нас па чарзе абслужыла.

Лукаш Т., па мянушцы „Беляк”, успомніў, што не раз прыводзілі сабе паненку і ніколі не было так, каб зараз па судах цягалі. Паводле яго Оля сама сабе вінавата.

— Навошта як нейкая к... апранаецца!

P.S. *Імёны герояў зменены*

# Кніжка — тавар спецыфічны

**З доктарам МІКАЛАЕМ КОЗАКАМ, дырэктарам Міжнародных Беластоцкіх кірмашоў, якія арганізуе фірма „Бяль-Экспа", гутарыць Ада ЧАЧУГА.**

*— Ад калі існуе фірма „Бяль-Экспа" і чым яна займаецца?*

— Фірма існуе ад восені 1994 года. Сваёй дзейнасцю імкнецца спрыяць эканамічнаму супрацоўніцтву Польшчы і Беларусі, аднак на кірмашы, якія мы арганізуем, запрашаем фірмы не толькі з Беларусі і Польшчы, але і з Расіі, Украіны, Літвы. У мінулым годзе мы запрашалі фірмы нават з Егіпта (іх было ў нас аж трыццаць). Яны прадстаўлялі ў нас розныя тавары — перш за ўсё будаўнічыя матэрыялы, абутак, біжутэрыю, прадуктовыя тавары. Былі гандлёвыя прапановы не толькі для Польшчы, але і для Беларусі. У гэтай справе прыязджала нават спецыяльная дэлегацыя з Міністэрства знешнеэканамічных зносін і Міністэрства гандлю Рэспублікі Беларусь.

*— Ці вы арганізуеце кірмашы таксама ў Беларусі?*

— Не, толькі ў Беластоку, які з'яўляецца сёння найбольшым прамысловым, гандлёвым і навуковым цэнтрам паўночна-ўсходняй Польшчы, а спрыяе гэтаму яго геаграфічнае палажэнне і эканамічны патэнцыял.

*— Ваша фірма працуе ўсяго паўтара года. Што ўжо зроблена?*

— У мінулым годзе адбылося 9 гандлёвых імпрэз, у якіх брала ўдзел 300 фірм з Польшчы і заграніцы. Два разы арганізавалі мы будаўнічыя кірмашы (вясною і восенню), па два разы — кірмашы прадуктовых тавараў ды вопраткі і абутку, адбыўся кірмаш гаспадарчай хіміі і касметыкі, егіпецкая выстаўка ў маі, ну, і кірмаш кніжкі, які адбыўся ў чэрвені 1995 года.

*— Цяпер вы плануеце другі кірмаш кніжкі?!*

— Так. Мае ён адбыцца ў днях 3-5 мая 1996 года. Запрашаем выдавецтвы з Беларусі, Украіны, Расіі, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Запрашаем выдавецтвы ўсіх нацыянальных меншасцей, якія пражываюць у Польшчы. Не ведаю, ці прыедуць у наш Беласток, усе наракаюць, што не маюць грошай. Я нават звярнуўся ў гэтай справе ў Міністэрства культуры, але там лічаць, што далі ім столькі, грошай, што на ўсё павінна хапіць.

*— Ці беларускія кніжкі, якія выдаюцца ў Беластоку, будуць выстаўлены на кірмашы?*

— Гэта ўсё залежыць ад выдавецтваў. У мінулым годзе мы самі, г. зн. фірма **„Бяль-Экспа"**, заплацілі за ўдзел **беларускіх выдавецтваў з Беластока**.

*— А сёлета?*

— А сёлета запрашаем! Запрашаем таксама паланійныя выдавецтвы з Украіны, Літвы, Беларусі. Нават калі хтосьці не мае выдавецтва, дык можа паказацца з прэсавымі выданнямі. Многія лічаць, што сярод паланійных выданняў ёсць шмат цікавых пазіцый, якія могуць быць прапанаваны на польскі рынак, вядома, калі ёсць дастатковы тыраж. Запрашаем узяць удзел у кірмашы таксама эсперанцкія выдавецтвы.

*— Якія вы ставіце мэты, арганізуючы кірмаш кніжак?*

— Перш за ўсё гэта камерцыйныя мэты. Кніжка гэта тавар.

*— Прабачце, а ці ў мінулым годзе вы не даплацілі да гэтага кірмашу?*

— Выйшлі без страт і то добра. Зарабілі на іншых кірмашах.

*— Значыцца, камерцыйныя мэты гэта не ўсё?*

— Вядома, не менш важныя культуратворчыя мэты. **Кніжка — тавар спецыфічны**, а яе абарот ствараe нагоду для арганізацыі розных навуковых, культурна-асветных мерапрыемстваў. Мы ўжо нават гаварылі з дырэктарам Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі Янам Зенюком пра дыскусію наконт прыдатнасці сённяшніх школьных падручнікаў.

Вельмі важныя таксама інфармацыйна-асветныя мэты, як хоць бы прапаганда меншасных выданняў.

*— Як прадстаўляецца на вашых кірмашах кніжка з Беларусі*

— У мінулым годзе беларускія выдавецтвы былі прадстаўлены, на жаль, адзіным выдавецтвам „Гродна-кніга". Сёлета ізноў запрашаем беларускія выдавецтвы. Не ведаю, аднак, хто прыедзе. Я сустракаўся з дырэктарам выдавецтва „Беларусь" Мікалаем Кавалеўскім. Яны вельмі зацікаўленыя.

*— Ці беларуская кніжка карыстаецца поспехам у Беластоку?*

— Пасля мінулагодняга кірмашу Дом кніжкі па вуліцы Кілінскага закупіў значную колькасць беларускіх і рускіх кніжак (была прадстаўлена і „Международная книга" з Масквы) і тым самым адрадзіў сваю дзейнасць у галіне продажу славянскай літаратуры. А вядома ж, што гэта дзейнасць у апошні час зусім занікла.

*— Ці на майскім кірмашы кніжкі гандлёвыя сустрэчы і размовы будуць суправаджацца дадатковымі мерапрыемствамі?*

— Вядома! Прадбачым канферэнцыю на тэму: „Роля гуманіста ў будаванні новага еўрапейскага ладу", якая адбудзецца ў Ваяводскай бібліятэцы імя Лукаша Гурніцкага. Плануем аўтарскія сустрэчы і дыскусію на тэму „Літаратура нацыянальных меншасцей у Польшчы", якая мае адбыцца ў сядзібе Беларускага таварыства. Апрача таго, у Філіяле Варшаўскага універсітэта адбудзецца канферэнцыя-дыскусія аб паланійных кніжцы і прэсе.

*— Ваша асабістае заангажаванне ў справы кніжкі вядома здаўна!*

— Я лічу, што наш кірмаш мае вялікае значэнне для культуры рэгіёна. Кніжка сведчыць аб культурным абліччы чалавека, а прысутнасць беларускай, ды і наогул славянскай кнігі ў рэгіёне, у якім цесна пераплятаюцца розныя нацыі, іх звычаі, традыцыі, — мае асаблівае значэнне. І таму добра было б, каб на такіх кірмашах паказвалі свой выдавецкі плён выдавецтвы з Беларусі. Нашым жыхарам гэта патрэбна.

*— Спадзяюся, што Беластоцкі кірмаш кніжкі стане пастаяннай пазіцыяй у культурным краявідзе нашага рэгіёна.*

## Бібліяграфічны куточак


Białoruski ruch studencki w Polsce 1981-1992. Wybór dokumentów. Oprac. Sławomir Iwaniuk, Eugeniusz Wappa. Wyd. Białoruskie Zrzeszenie Studentów, Białystok 1995 ss. 330, 59 il.; Rec. Vaúranjuk Mikola, *Niva* 11.02.1996 r., nr 6 (2074), s. 5; MAKSYMIUK Jan, *Czasopis* 1996 nr 2 (61) s. 29-30.

JANOWICZ Sokrat: Literatura to nie PZU. Rozm. przepr. Bogdan Dudko i Jan Turonek. *Kartki* R. 4: 1995, nr 1, s. 23-24, il.

/jon/: Trójstronna własność. Kultura — państwowa, muzeum — białoruskie (w Hajnówce). *Kurier Poranny* 15.02.1996 r., nr 39 (1643), s. 3.

STOCZEWSKA Barbara: Leon Wasilewski o mniejszościach narodowych w II Rzeczypospolitej. *Sprawy Narodowościowe* 1995, z. 1, s. 221-223.

/tom/: Polska jest wzorem. Sokrat Janowicz i Leon Tarasewicz w „Pegazie". Rozm. przepr. Tomasz Jastrun. *Kurier Poranny* 10.02.1996, nr. 35 (1639) s. 8, il.

UJMA Magdalena: Malarstwo. (Wystawa L. Tarasewicza w Lublinie). *Kresy* 1995, nr 2, s. 237-238.

WIERZBICKI Marek: Bliżej prawdy. (Konferencja naukowa „Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na Kresach Wschodnich II Rzeczypospolitej 1939-1941".) *Rocznik Wschodni* R. 1: 1994, s. 16-20.

WOJNICKA Maria: Związki Polski z Białorusią w świetle prasy polskiej w latach 1918-1921. *Studia z dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej* 1995, t. 30, s. 27-36. Sum.

WRZOSEK Mieczysław: Polskie formacje wojskowe na Ukrainie i Białorusi w 1918 r., cz. 6. *Białostockie Teki Historyczne* 1995, t. 1, s. 139-225.

Zaniewska Teresa: A dusza jest na Wschodzie...: polsko-białoruskie związki literackie. Białystok 1993; Rec. BIENKIEWICZ Henryk, *Slavia Orientalis* 1995, nr 1, s. 158-159.

ZANIEWSKA Teresa: O kulturze bez granic. Polsko-białoruskie spotkanie literackie (w Hajnówce). *Kurier Poranny* 25.01.1996 r., nr 21 (1625), s. 9.

ŽDANKO Valancin: Najbliższa zagranica: Rosjanie na Białorusi. Tł. *Eurazja* 1995, nr 3, s. 23-25.


**(PC)**

# Міхасю дзякуем за памяць

У сакавіцкім нумары „Часопіса", пастаянны каментатар гэтага штомесячніка Міхась Шаховіч чарговы раз накіраваў свае роздумы ў напрамку „Нівы". За памяць Міхасю шчыра дзякуем, выбачаем яму з'едлівы тон, не можам толькі змірыцца з ігнараваннем фактаў, што пастаянна дэманструе наш сябра на старонках „Часопіса".

Міхась Шаховіч, спасылаючыся на выказванні жыхароў сваёй роднай вёскі Сакі, ставіць нам закід, што „Ніва" займаецца цяпер „гісторыяй нейкай, палітыканствам", забыла пра вёску. Раней „Валкавыцкі ведаў дзе згушчаліся беларускія справы. Уся або амаль уся беларуская меншасць у Польшчы жыла ў вёсцы. Вёска галубіла сваю мужыцкую мову. Звярталючыся да вясковага чытача і дапамагаючы ў яго праблемах, галоўны рэдактар „Нівы" ведаў, што звяртаецца да ўсіх беларусаў, пішучы летапіс вёскі — ствараў летапіс беларускай мяншыні ў Польшчы... Пачынаючы ад нібыдэмакратычных перамен у краіне, тыраж „Нівы" страшэнна панізіўся. Тады, калі „Ніва" стала дэмакратычнай, калі дазволілі гаварыць што хочаш, калі не чапляецца цэнзура?.. Чаму чытач адрокся ад свайго. А пачалося ўсё недзе пад канец васьмідзесятых гадоў, тады калі расхопвалі ўсялякія газеты... А можа жыхар Сакоў мае рацыю? На халеру яму палітыканства, гістарычныя доказы?" — піша публіцыст „Часопіса" Міхась Шаховіч.

Цешыць, што прынамсі ў мінулым у Саках усе жыхары чыталі „Ніву", што сяляне галубілі беларускую мову, што наш тыднёвік быў магутным часопісам, і што толькі з прычыны невялікіх надзелаў паперы — як піша Міхась Шаховіч — не мог прадавацца тыражом большым чым 10 тысяч экземпляраў. Хай такі вобраз „Нівы" і нашага грамадства астаецца ў памяці Міхася і ўсіх добрых людзей, бо сапраўды ён прыгожы.

Страшэнную крыўду аднак (не першы раз) робіць Міхась Шаховіч свайму сябру, былому галоўнаму рэдактару Віталю Лубе, калі піша, што тыраж „Нівы" страшэнна панізіўся пры канцы васьмідзесятых гадоў, калі пачаліся „нібыдэмакратычныя перамены". Наш дарагі калега забывае, што апрача агульнавядомых легендаў, ёсць яшчэ амаль нікому невядомыя пратаколы, справаздачы, дзе дэталёва прадстаўляецца колькасць надрукаваных і прададзеных паасобных нумароў часопіса. Прыкра мне аб гэтым пісаць, але тыраж страшэнна панізіўся ў час, калі яшчэ Міхась змяшчаў у „Ніве" свае знакамітыя артыкулы пра народную абраднасць. Катастрофа прыйшла нечакана, калі ў снежні 1981 г. аўтары ваеннага становішча паслалі журналістаў на парумесячны адпачынак. Пасля гэтых канікулаў нават палова ранейшага тыражу не трапіла ў рукі чытача. І не была гэта ніякая віна рэдакцыі, ні тым больш рэдактара Міхася Шаховіча ў прыватнасці. Проста рассыпалася, доўгімі гадамі ствараная Георгіем Валкавыцкім, сістэма распаўсюджвання, якой ніхто ўжо не быў у сілах адбудаваць. У дадатак загінуў савецкі рынак і недзе прапалі школы, у якіх беларускай мове вучалася каля 12 тысяч дзяцей, і дзе традыцыйна трапляла пару тысяч кожнага нумара „Зоркі" з „Нівай", не ўспамінаючы ўжо пра лёс вёскі. Ні артыкулы пра гадоўлю парасят, ні пра вясельныя фокусы не мелі ўжо ніякага ўплыву на тыраж тыднёвіка, так як не мелі значэння кадравыя змены, якія пачалі наступаць у палове васьмідзесятых гадоў. Калі не памыляюся, у 1984 г. рэдакцыю пакінуў сам Міхась Шаховіч, які так зварушліва, са слёзамі ў вачах гаварыў раней пра паміраючаю родную мову, але чамусьці трапіў у кіраўніцтва антыбеларускіх, па духу, „Кантрастаў".

„Жахлівай хваляй праходзяць па сэрцы і слязу выціскаюць жорна душы", калі чытаецца словы беларускага інтэлігента: на халеру нам гісторыя, на халеру палітыка? Стагоддзямі гісторыю пісалі за нас іншыя. Але як мы там выглядаем? Ці ж не такімі, што то „людзьмі хочуць звацца"? Пісаць беларусам пра абраднасць, жытнія нівы, сялянскую рамантыку не забаранялі ні Дмоўскі, ні Пілсудскі, ні Герэк, ні Брэжнеў. Палітыкай наогул займацца беларусу было грэхам. У вачах вонкавага свету заўсёды быў гэта нацыяналізм, у вачах сваёй грамадскасці — авантурызм. Рэдка былі толькі спрыяльныя ўмовы для гістарычнай рэфлексіі. Але дзякуючы гэтым хвілінам, наступіў у канцы пададзел сярод беларусаў: на тых што людзьмі хочуць звацца і тых, што людзьмі проста ёсць.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

# Сакавіцкія віншаванні

**Шаноўны Сп. Рэдактар!**

З далёкай Аўстраліі вітаю Вас з 78-мі Угодкамі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Векапомным АКТАМ 25-га САКАВІКА 1918 г. і жадаем усім Вам плённых посьпехаў у працы на карысьць свайго грамадства!

Беларускі народ пацярпеў вялікія страты і пераЖыў жудасныя зьдзекі як рэзультат сістэматычна праводзімай ворагамі палітыкі генацыду на Беларусі — аднак ворагу не ўдалося загасіць полымя Ідэі Незалежнасьці Беларусі ў сэрцах беларускага народа і ў 1990 г. беларускі народ Абвясьціў Дзяржаўны Суверэнітэт Рэспублікі Беларусь!

Цяпер Рэспубліка Беларусь усё яшчэ перажывае цяжкасьці, зьвязаныя з панаваньнем тых лідэраў, якія яшчэ хварэюць на настальгію па вялікай маскоўскай імпэрыі — але беларускі народ выжыве і гэтых імпэрскіх адпадкаў і запэўніць назаўсёды Вольнасьць і Незалежнасьць Рэспублікі Беларусь!

Жыве Незалежная Беларусь!

З павагай да Вас, Вашых Супрацоўнікаў і ўсіх Вашых Чытачоў

**Алесь Алехнік,**
*Генеральны сакратар*
*Згуртаваньня беларусаў Аўстраліі.*

**Дарагія Суродзічы!**

Надышоў наш Вялікі Сакавік — 78-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі — нашае нацыянальнае сьвята, якое мы заўсёды ўрачыста адзначаем.

Апошнімі часамі паўстала вялікая пагроза ня толькі беларускай незалежнасьці, але нават існаваньню беларусаў, як нацыі. Аб'яднаўшыся тут на эміграцыі, мы павінны разам са сваімі братамі на Бацькаўшчыне прыкласьці ўсю сваю энэргію і творчыя сілы, каб не дапусьціць страты беларускае дзяржаўнасьці.

Няхай Вялікі Сакавік вядзе нас да здабыцьця волі нашаму народу і поўнае незалежнасьці нашай любай Беларусі! Няхай сьвеціцца запаленая іскрынка свабоды на нашай Бацькаўшчыне!

Няхай жыве вольная і дэмакратычная Беларусь!

**Расьціслаў Завістовіч**
*Старшыня Беларускага кангрэсавага камітэта Амэрыкі*
**Міхась Сенька**
*Сакратар*

**Дарагія суродзічы!**

Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" ад душы віншуе Вас з Днём Волі — 25 Сакавіка. Прымеце, дарагія сябры, нашыя сьвяточныя зычэньні здароўя, радасьці, дабрабыту.

Той далёкі сакавіцкі дзень, калі была абвешчаная Незалежнасьць нашае краіны, стаў паваротным у гісторыі Беларусі. Перад усім сьветам была засьведчаная нязломная воля нашага народу да незалежнага і свабоднага дзяржаўнага жыцьця. І, нягледзячы ні на якія гістарычныя павароты й нягоды, нягледзячы на саманадзейныя імпэрскія замахі Масквы, незалежнасьць Беларусі была адноўленая ў 1991 годзе.

Але пасьля дзесяцігодзьдзяў задушэньня й вынішчэньня ўсяго беларускага ў народнай сьведамасьці не выпадала спадзявацца на хуткую й незваротную перамогу незалежніцкіх сілаў. Вораг моцны, падступны і хітры. Незалежнасьць Беларусі, гэты найдаражэйшы скарб для нас з вамі, стала разьменнаю манетаю ў руках прайдзісьветаў, якія апынуліся пры ўладзе. З 1991 году краіна яшчэ не стаяла так блізка ад прорвы — ад страты набытае цяжкаю барацьбою незалежнасьці. Мы мусім змабілізавацца усе намаганьні, каб адстаяць будучыню Бацькаўшчыны.

Хай жа Дзень Волі 25 Сакавіка стане днём еднасьці ўсіх беларусаў, якім дарагая незалежнасьць Бацькаўшчыны і якія гатовы бараніць свабоду краіны. Хай лунаюць у гэты дзень бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня — як сьведчаньні нязломнасьці і няскоранасьці Незалежнае Беларусі. Хай шчасьціць усім нам у нашай сьвятой справе.

**Зянон Пазьняк**
*Старшыня*
*Беларускага Народнага Фронту*
**Вінцук Вячорка**
*Намесьнік старшыні БНФ*
**Валянціна Трыгубовіч**
*Сакратар Управы БНФ*
*па міжнародных сувязях*

# Сход БГТ

7 сакавіка г.г. у Беластоку адбыўся сход сяброў Беларускага гістарычнага таварыства. Арганізацыя існуе ад восені 1993 г., а ў гэтым часе яе члены падрыхтавалі да друку і выдалі чатыры кніжкі прысвечаныя гісторыі беларусаў, чатыры тамы „Białoruskich Zeszytów Historycznych", наладзілі тры навуковыя канферэнцыі, прымалі ўдзел у шматлікіх сустрэчах гісторыкаў з Польшчы і Беларусі. БГТ — грамадская арганізацыя, якая не мае ні штатаў, ні памяшканняў, а адрас для карэспандэнцыі гэта адрас нашай рэдакцыі. Нягледзячы на такія ўмовы, Таварыства за мінулыя два гады прадставіла плён сваёй дзейнасці параўнальны да вынікаў універсітэцкага інстытута, дзе працуюць дзесяткі штатных супрацоўнікаў, за якімі стаіць вялікі адміністрацыйны і тэхнічны апарат а таксама немалыя фінансавыя сродкі.

З увагі на неабходнасць завяршэння дысертацыйнага працэсу ў адстаўку падаўся старшыня БГТ доктар Антон Мірановіч. У галасаванні большасцю галасоў новым старшынёю арганізацыі быў абраны наш журналіст Алег Латышонак, які да гэтай пары выконваў абавязкі сакратара Таварыства. Намеснікам старшыні надалей астаўся Славамір Іванюк, а новым сакратаром стаў Веслаў Харужы.

Падчас сустрэчы былі абмеркаваны таксама планы дзейнасці на 1996 г. Плануецца між іншым выданне двух чарговых сшыткаў, трох кніжак і арганізацыю навуковай канферэнцыі прысвечанай беларусам, якіх дзейнасць паўплывала на ход палітычных, грамадскіх, рэлігійных ці культурных працэсаў сярод нашага насельніцтва. Прадбачваецца ўдзел сяброў БГТ у навуковых сустрэчах гісторыкаў, якія ў гэтым годзе адбудуцца ў Польшчы і Беларусі. **(Рэд.)**

# Наша пошта

*У снежні 1995 г. Беларуская рэдакцыя V праграмы Польскага радыё аб'явіла конкурс для слухачоў сваіх перадач у Беларусі. Зацікаўленыя ўдзелам у конкурсе слухачы павінны былі даслаць у рэдакцыю рапарты, якія былі б доказам таго, што змест радыёперадач слухачам добра вядомы. Рэдакцыя атрымала каля 800 такіх рапартаў, а самыя верныя слухачы атрымалі ўзнагароды. У ліку ўзнагароджаных апынуліся Міхал Адамін з Парэчча і Юрась С. з Віцебска, якія выйгралі гадавую падпіску „Нівы". Пасля прачытання першых нумароў нашага тыднёвіка яны напісалі нам наступнае:*

* * *

Шчыра дзякую за дасланыя нумары газеты, падпіску на якую я выйграў як узнагароду ў конкурсе Беларускай рэдакцыі Польскага радыё з Варшавы. Віншую Вас з 40-й гадавінай выхаду „Нівы", жадаю поспехаў, трываласці і моцнага здароўя!

Ваш колішні падпісчык (і ўжо цяперашні)

**Міхал Адамін, Парэчча**

* * *

Атрымаў я ад Вас нумар „Нівы". Шчыры дзякуй! Прачытаў з вялікім задавальненнем амаль усю газету. Разгадаў крыжаванку. Ваше выданне аддам у абласную бібліятэку, дзе ўжо ёсць і некаторыя іншыя друкаваныя матэрыялы беларускага замежжа. Чакаю новага, дзевятага, нумара! Да сустрэчы!

**Юрась С., Віцебск**

# Новыя вершы

**Віктар Швед**

### Беларусы баяцца беларусамі звацца

Лаўлю я вухам, шукаю зрокам
Беларусаў у Беластоку.
І ў душы мне становіцца горка, —
Нідзе не чую роднай гаворкі.
Быццам папала ў нейкую пастку
Жыхароў горада трэцяя частка.
І не чуваць іх у наваколлі,
Нібыта і не было тут іх ніколі.
І заўжды чую на кожным кроку
Толькі палякаў у Беластоку.
Чуецца ўсюды польская мова,
Цалкам заглохла нашае слова.
Хоць афіцыйна няма прымусу,
Няма адважных быць беларусам.
Большасці раптам сталі баяцца,
Беларусамі публічна звацца.

### Прыстасаванцы

І штораз меншыя ўжо шанцы
Каб беларусамі астацца,
Да большасці прыстасавацца,
Імкнемся ёй прыпадабацца.
Стараемся мы адначасна
Як большасць наша быць такімі ж.
Зракаемся ідэі ўласнай,
Сябе становімся чужымі.
Зракаемся сваіх карэнняў
І памяці бацькоў вясковых,
І папярэдніх пакаленняў,
І роднай беларускай мовы.
Цікава, большасць як асудзіць
Гэтыя нашыя заганы?
І ці яна заўсёды будзе
Да нас адносіцца з пашанай?

### Будаўнік

Ты нашы вёскі абнадзеіў,
Крамаў узнёс ім значны лік.
Цяпер ты ў Гайнаўцы музея
Непераможны будаўнік.
Хто ж з нас не ведае Майсені,
Яго пазнала й Беларусь,
І будучыя пакаленні
Скажуць: наш будаўнік Кастусь.
Музей нам стаўся веліканам
І наш ён гонар, сапраўды.
І будуць тут у ім сабраны
Нашай мінуўшчыны сляды,
Усе прылады чалавека,
Што захаваў наш слаўны люд,
Доказ, што тут жывем спрадвеку,
Тут наш айчынны родны кут.
Хутка прац будзе завяршэнне.
Сядзець бяздзейна не прывык
Наш дарагі Кастусь Майсеня,
Музея слаўны будаўнік!

# Доўгачаканы слоўнік

Кожны, хто ў нашых умовах піша і чытае на беларускай мове, адчувае недахоп польска-беларускіх і беларуска-польскіх слоўнікаў, а выдадзены ў 1962 годзе пад рэдакцыяй Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай і Мікалая Бірылы „Падручны польска-беларускі слоўнік" стаў ужо антыкварным рарытэтам. І вось на днях у кнігарнях з'явіўся ў продажы „Беларуска-польскі і польска-беларускі слоўнік"*, складзены Тэрэсай Ясінскай і Альбертам Барташэвічам, навукоўцамі Варшаўскага універсітэта. У слоўніку — у абедзвюх частках — змешчана 15 тысяч слоў і прыкладаў іх прымянення, прыведзены ўстойлівыя выразы і фразеалагізмы. У канцы даюцца яшчэ геаграфічныя назвы і скарачэнні, а таксама кароткая інфармацыя пра важнейшыя асаблівасці беларускай мовы.

У прадмове складальнікі адзначаюць, што слоўнік мае рэцэптыўна-прадуктыўны характар, а карыстацца могуць ім усе, хто ведае польскую і беларускую мовы, прынамсі на пачатковым узроўні. Разлічаны ён перш за ўсё як дапаможнік для вучняў пачатковых і сярэдніх школ з беларускай мовай навучання, а таксама для студэнтаў беларускай і славянскай філалогій.

Гартаючы старонкі выдання заўважаецца, што аўтары парупіліся ўключыць у слоўнікавы матэрыял спецыялістычную тэрміналогію, у тым ліку з галіны акружаючай нас тэхнікі, што дазволіць карыстальнікам папоўніць свой лексічны запас беларускімі тэрмінамі (беларускамоўныя жыхары Беласточчыны карыстаюцца на штодзень польскай тэхнічнай тэрміналогіяй). Пры лістанні гэтага лексікона трапілісе мне на вочы і некаторыя памылкі, якія не павінны былі здарыцца ў такога тыпу выданні. Напрыклад, на старонцы 399 дапушчана арфаграфічная памылка пры напісанні слоў **даяждджаць, пад'язджаць** (у слоўніку: *даяжджаць, пад'яжджаць*). Разнабой нагляддаецца і ў геаграфічных назвах, змешчаных пасля кожнай слоўнікавай часткі. Сумненні могуць выклікаць формы *Белград, Загрэб, Осло, Пірэнэі* (у менскіх слоўніках і энцыклапедычных выданнях: **Бялград, Заграб, Осла, Пірэнеі**). Відаць з-за карэктарскага недагляду выступаюць у слоўніку розныя запісы аднай назвы, напрыклад: правільная — **Ціхі акіян** (стар. 368) і памылковая — *Ціхі Акіян* (стар. 615).

Слоўнік складзены вельмі празрыста, так што лёгка будзе ім карыстацца і вучням, і дарослым аматарам беларушчыны. Увагу прыцягвае таксама стараннае друкарскае афармленне, характэрнае такога роду выданням. Толькі цана можа ў не аднаго школьніка адбіць ахвоту набыць гэты слоўнік. У беластоцкай кнігарні „Акцэнт" каштуе ён 28,60 зл

**(вл)**

* Teresa Jasińska, Albert Bartoszewicz, *Słownik białorusko-polski i polsko-białoruski*, Warszawa 1996, ss. 621.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## Нацыянальнае свята беларусаў

7 лістапада 1917 г. уладу ў Расіі захапілі бальшавікі, якія аб'явілі свету права народаў былой царскай імперыі на свабоднае самавызначэнне свайго лёсу. 18 снежня 1917 г. сабраліся ў Менску 1872 дэлегаты ад усіх раёнаў Беларусі і ад усіх грамадскіх груп, каб вырашыць лёс свайго народа. Былі там сяляне, рабочыя, святары, урадпікі, настаўнікі, памешчыкі, жаўнеры. Пасля пару дзён нарадаў, якія праводзіліся ў Менскім гарадскім тэатры, дэлегаты дайшлі да вываду, што найлепей беларусам будзе жыць у сваей дзяржаве, будучы гаспадарамі на сваёй зямлі. Не паспелі аднак напісаць і аб'явіць гэтай пастановы, калі ў тэатр, дзе адбываліся нарады, уварваліся батальёны ўзброеных бальшавікоў і разагналі прадстаўнікоў беларускага народа. Дэкрэт бальшавіцкага правадыра Леніна пра свабоду народаў Расіі аказаўся толькі пустым лозунгам.

Дэлегаты ад беларускага народа аднак не раз'ехаліся па хатах. Сабраліся на вуліцы і выбралі Раду, якая стала як бы першым парламентам незалежнай Беларусі. **25 сакавіка Рада аб'явіла незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.** Беларусы пачалі ствараць сваю адміністрацыю, школьніцтва, гаспадарчыя структуры, армію, дыпламатычныя прадстаўніцтвы. Не паспелі аднак усяго зрабіць. Вясной 1919 г. ад захаду ў межы Беларусі ўварваліся легіёны Пілсудскага, пару месяцаў пазней ад усходу бальшавіцкія арміі. Пасля двух гадоў змагання паміж сабой захопнікі вырашылі падзяліць Беларусь папалам. Пачалася чарговая акупацыя, але памяць пра ідэі 25 Сакавіка не дазвалялі беларускім патрыётам забываць пра тое, што сэнс існавання народа заключаецца ў яго незалежнай дзяржаве.

## 25 Сакавік

Ён прыйдзе, гэты дзень!
Ён не прыйсці не можа!
Ён прыйдзе —
й загудзе вясновы буралом,
пакрышыць, размяце
раскідае, зніштожыць
усё, што нам шляхі да хаты замяло!
Ці чуеце?
Аб ім
шасціць быльнёг аселіц,
пяюць вятры ў лазе,
і звоніць крыгаў лёд.
Ахвяраю крыві,
а Слова стане Целам,
і ўжо ніколі больш
не ўстане Чорны Год.
Няхай бярэмя він
прыгнула нас, і крылы
апалі,
й хлеб чужы нясмачны і важкі,
няхай нас апавіў
тугой агорклы вырай, —
трывайма!
Ён ідзе —
Вялікі Сакавік!
Ідзе...
й пад ногі рунь
яму кладзецца, таюць
снягі, на паплавах зяленіцца трава...
Радзіма!
Беларусь!
Каханая, святая!
Багаславі нас жыць
і веру захаваць!

**Наталля Арсеннева**

### Польска-беларуская крыжаванка № 12

RAMPA
RZEPA
GATUNEK LITERACKI
KOLONIA
ECHO
ASTMATYK
MATA
KADR
AR
KADR

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 7: цыкл, гузік, дата, цуд, мыза, кіт, елка.**

Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі: **Пятрусь Янкоўскі** і **Андрэй Бобель** з Бельска-Падляшскага; **Анэта Трафімюк, Ігар Дзікевіч** і **Міхась Кубайчык** са Старога Беразова; **Юрка Купрыяновіч** з Кленік; **Аня Тэслюк** з Новага Корніна, **Аля Трусевіч** з Курашава; **Данель Пракапюк** з Чыжыкаў; **Адам Трафімюк** са Слівава.

**Віншуем!**

## Казка пра беднага зайца

Жыў сабе ў адной вёсцы зайчык. Пазнаёміўся ён з лісіцай. Пасябравалі. Неўзабаве прыйшла зіма. Лісіца рассялася ў зайчыкавай хатцы і кажа:

— Не пушчу цябе сюды, заяц. Я цэлае лета за цябе прыбірала.

Сеў зайчык пад сасной, расплакаўся. Ідзе воўк:

— Чаго малы плачаш? — пытаецца ў зайчыка-бядняці.

— А што мне рабіць? Пасябраваў з лісіцай, упусціў яе ў сваю хатку, а яна ж, ліхадзейка, выгнала мяне.

— Бяда тут малая, — сказаў воўк, — пайду ды праганю яе.

І пайшоў.

— Лісіца-хітрыца, уцякай з зайчыкавай хаткі, а не, то я цябе зараз...

— Нідзе не пайду, падыдзеш да хаткі, дык я табе хвост адарву!

Пабаяўся воўк, адышоў ад хаткі і думае: „Як жа мне без хваста жыць". Пайшоў воўк сваёй дарогай.

Ідзе мядзведзь. Сустрэў ён заплаканага зайчыка, пытаецца.

— Плачу, — расказаў сваю сумную гісторыю заяц. — Зіма на дварэ, а яна ў маю хатку ўсё не пускае.

— Ну добра, — кажа мядзведзь, — пайду і праганю зладзейку.

Пайшоў мядзведзь, стукае ў аконца. А лісіца як не кінецца да яго, як не закрычыць:

— Як вылезу, дык разматаю цябе па часцінках, костачкі адны астануцца.

Падумаў, падумаў мядзведзь навошта яму такое гора ды і пайшоў сваёй дарогай.

Прыйшоў пеўнік, распытаў пра бяду зайчыка.

— Добра, дапамагу табе, — пацешыў ён бяднягу.

Зайшоў ён пад хатку, кліча лісіцу:

— Выходзь з хаты, а не то шаблю маю пабачыш.

— Не смяшы ты мяне, певень! — разышлася лісіца. — Таго толькі не хапала, каб птушкі мяне палохалі.

— Так, паглядзім, — сказаў пеўнік, — давай заяц маю шаблю!

Лісіца зірнула ў акно і бачыць, што сапраўды певень з шабляй. Падумала, што галаву тут можна палажыць, ды чым хутчэй выбегла з хаткі і ў лес кінулася.

А зайчык і пеўнік радаваліся і смяяліся, седзячы ў цёплай хатцы. Бо замест шаблі, вядома, пеўнік меў толькі сваё пяро.

**Зорка**

**Мікола Гайдук**

## Аб нашым мінулым

(3)

**Першыя беларускія дзяржавы**

У беларускіх плямёнаў зачаткі дзяржаў пачалі складвацца ўжо тады, калі яны засялялі абшары, дзе ўжо жылі балты. Патрэбна была згуртаванасць і разумнае кіраўніцтва, каб перамагчы балтаў. Разам з замацоўваннем **крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў** гэтая лучнасць і кіраванне дужэлі і плямёны ставалася княствам. Княства ўзначальвалі **веча і князь. Веча** — гэта сход усіх свабодных дарослых мужчын, на якім вырашаліся важнейшыя для ўсяго племя справы. **Князя** назначала і адклікала веча. Князь быў галоўным суддзёю і па жаданню веча разам са сваёй дружынай вояў кіраваў абаронай княства або паходамі на іншыя княствы.

У X стагоддзі сваё княжанне мелі **дрыгавічы**. Іхняй сталіцай быў горад **Тураў** з магутнай крэпасцю. Летапісец падае, што ў 980 годзе *Тур трымаў уладу ў Тураве, і ад яго (дрыгавічы) празваліся тураўцамі*. У 988 г. на Тураўскае княства напаў кіеўскі князь Уладзімір. Княскі род Тура пры гэтым загінуў, але пастаўлены Уладзімірам Тураўскаму княству князь і яго наступнікі стараліся ўтрымліваць незалежнасць гэтага княства. Паўднёвая ўскраіна дрыгавіцкай зямлі была далучана да Кіеўскага княства.

Пачаткова **радзімічы** таксама мелі сваё незалежнае княства. Галоўным яго горадам, відаць, быў **Гомель.** Яны час ад часу давалі даніны суседнім мацнейшым ад яго княствам. Радзімічы славіліся сваім рамяством, асабліва выплаўкай жалеза і вырабам зброі і розных жалезных прадметаў. Гэта стала прычынай таго, што ў 984 г. той жа кіеўскі князь Уладзімір выслаў вялікае войска, і яно запаланіла іх. Радзімічы ўжо не здолелі адбудаваць свайго княства. Потым іхнія землі падзялілі вялікія суседнія Смаленскае і Чарнігаўскае княствы. Аднак радзімічы засталіся моцным унутранай еднасцю краем са сваёй гаворкай, абрадамі, звычаямі.

Самае моцнае і трывалае княства ўтварыла каля VIII стагоддзя **заходняя частка крывічоў**. Яе сталіцай стаў магутны горад і крэпасць **Полацк.** Гэтую назву ён займеў ад рэчкі Палаты, каля вусця якое ў Дзвіну быў заснаваны. А ад яго гэтая частка крывічоў стала называцца **палачанамі**.

У летапісах паведамляецца, што Полацк як важны горад існаваў ужо ў 862 г. і расказваецца легенда, як крывічы з суседнімі плямёнамі адмовіліся падпарадкоўвацца варагам (норманам, вікінгам) і *выгналі варагаў за мора, не далі ім даніны і пачалі самі сабою ўладарыць. І не было ў іх справядлівасці, і падняўся род на род, і была ў іх сварка. Сталі яны ваявацъ самі супраць сябе. І сказалі яны: „Пашукайма сабе князя, каб ён валадарыў над намі і судзіў па справядлівасці". І падаліся за мора да варагаў... Сказалі: „Зямля наша вялікая і багатая, але ладу ў ёй няма. Прыходзьце княжыць і валадарыць намі..."*

Палачане былі моцнымі і адважнымі ваўнікамі. У 907 і 944 гадах разам з суседнімі славянскімі і неславянскімі дружыннікамі хадзілі супраць грэкаў, на Канстанцінопаль. Грэкі пацярпелі паражэнне, і былі вымушаны даваць частку даніны полацкай дружыне.

Полацкае княства было незалежнай дзяржавай, мела сваё веча і князя. Яно здабыло свабодны выхад на мора па рацэ Дзвіне. Дзеля аховы гэтага важнага шляху палачане падпарадкавалі сабе прыдзвінскія княствы Кукенойс і Герцыке. У абодвух княствах было балцкае насельніцтва. Яно давала даніну Полацку і ахоўвала водны шлях па Дзвіне. Палачане таксама апанавалі ўсходнюю частку літоўскіх плямёнаў, над ракой Віліяй збудавалі моцны горад Крывъ (інакш: крывіцкі), які стаў сталіцай княства, у ім княжылі полацкія князі. Пазней каля гэтага горада пабудавана сённяшняя Вільня (Вільнюс) — сталіца Літвы. Частка беларускіх зямель апынулася ў Смаленскім княстве. За іх змагалася Полацкае княства.

**Практыкаванні**

*1. Як паўставалі першыя беларускія княствы?*

*2. Што Ты ведаеш пра Тураўскае княства?*

*3. Які быў лёс княства радзімічаў?*

*4. Як паўстала назва „Полацкае княства"?*

*5. Пра што Табе напамінаюць даты 862, 907, 944?*

*6. Як Полацкае княства дабілася выхаду на Балтыйскае мора?*

*7. Дзе знаходзіўся горад Крывъ?*

**Дапоўні сказы і запішы іх у сшытку.**

Сход усіх свабодных дарослых мужчын горада або княства для вырашэння важных спраў — гэта ... . ... вызначала або адклікала князя. Князь быў галоўным ..., кіраваў ... і ... на іншыя княствы. Радзімічы славіліся выплаўкай ... і вырабам ... ... . Палачане над Дзвіной падпарадкавалі сваёй уладзе неславянскія княствы і ... .


Зорчыныя карэспандэнты найперш пазнаёміліся з гісторыяй наваколля.


Акцёры таксама мелі добры час.


Публіцысты ў творчасць кінуліся з галавою.


І крытыкі гэтак жа.

# III Сустрэчы „Зоркі”

**Бандары 12 – 17 люты 1996 г.**

Фотарэпартаж **Ганны КАНДРАЦЮК**


Мастацкі гурток не адставаў.


Вясёла гулялі...


Літаратары ўлавілі натхненне.


...і пасябравалі.

# Пры нагодзе юбілею

Яшчэ некалькі гадоў таму назад, калі існаваў Савецкі Саюз ды будаваў камунізм, я нават і не падумаў, што Беларусь заісную як незалежная і самастойная дзяржава з Пагоняй і бел-чырвона-белым сцягам. Аднак жа заіснавала, і ўсім нам, сяк-так азнаёмленым з гісторыяй, дэмакратыяй і гуманізмам здавалася, што вольным чалавекам можна быць толькі ў вольнай дзяржаве. Пішу нам, хаця трэба адрозніць нас — беластоцкіх беларусаў, і нас — беларусаў з Беларусі. „Беластоцкі" беларус больш-менш чуецца вольным чалавекам. Іншая справа, што не ведае ён, што з гэтай вольнай воляй зрабіць. З часам — пасля прэзідэнцкіх выбараў на Беларусі — аказалася, што беларускі народ у большай частцы не беларускі, а савецкі. Савецкі чалавек не вырашае аб сваім жыцці. Ён здае свой лёс (калі не ахвотна, дык прымушана) у рукі ўлады. Улада за яго думала, карміла, карала, асвятляла, вучыла. Улада ведала, што чалавеку патрэбнае, каб ён быў шчаслівы і задаволены. Не, не сам, але задаволены з улады. Калі трэба было, улада падкідала ў магазіны прадукты, вопратку, давала кватэры. Калі трэба было, да палучкі дабаўляла прэміі, а некалі высылала ў курорты або ў гулаг.

Аднак усяго беларускага народа не ўдалося зрабіць савецкім. Каля дзесяці працэнтаў народа не хацела быць саветамі. Гэтая частка пачала думаць інакш і спрабавала жыць інакш. І ведала, што беларускі народ да канца не саветызаваны, што мае сваю мову, нацыянальную культуру, што мае сваю гісторыю, мае **сваіх** герояў, зямлю, — адным словам усё тое, што адрознівае яго ад расейскага, украінскага, літоўскага, польскага ці іншых народаў. Гэтая частка народа ведала, што гаспадаром у сваёй хаце, пасёлку, вёсцы, горадзе і ў дзяржаве павінен быць яе жыхар, а не ўлада, якая прытым прыдумала, што будзе заўсёды ўладай. Гэтыя іншадумцы, калі паўстала гістарычная магчымасць, пачалі арганізавацца і тварыць апазіцыю да савецкай улады, з мэтай стварыць вольную Беларусь. А беларускія іншадумцы з Беласточчыны, бачачы залежнасць БГКТ ад улад, стварылі незалежныя арганізацыі. Цяпер (глядзі артыкул М. Ваўранюка „На 40-годдзе — сорак медалёў", „Ніва" ад 3.03.96 г.) аказваецца, што іншадумцы „спаўзлі на вузкую сцежку нацыяналізму" — як асуджае іх ганаровы старшыня БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Затым, хто думае, гаворыць пра ўсё, што нацыянальнае, беларускае, а не згаджаецца з уладамі БГКТ, значыць паўзе па вузкай сцежцы нацыяналізму.

У вачах улады, і той польскай, і той „беларускай" БГКТ з'яўляецца добрым таварыствам. Заслужыла БГКТ на сорак медалёў, калі М. Ваўранюк добра іх палічыў. БГКТ палітыкай не займаецца. Калі ўжо чымсьці займаецца, то выключна культурай, асветай, ну яшчэ, пры нагодзе фэстынаў, выбарчай кампаніяй А. Кваснеўскага і іншых лідэраў левых дэмакратаў. Калі палітыкай не займаецца (глядзі: „Палітычнасць і мы" — „Ніва" ад 4.02.96 г.), то чаму на 40-годдзе на ўрачыстым пленуме Галоўнага праўлення з'явілася столькі палітыкаў? Пэўна, што БГКТ ёсць беларускай арганізацыяй, але напэўна не саслізнецца на вузкую сцежку нацыяналізму і за тое падставіць грудзі для медалёў самога прэзідэнта, пакуль яшчэ Рэспублікі Беларусь.



*Госці юбілейнага пленума БГКТ. Злева віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела, беластоцкі ваявода Анджэй Гаеўскі, сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі Уладзімір Каральчук, віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Русакевіч і беластоцкі віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі.*

Хтосьці зноў можа паставіць закід, што я канфліктую, што цяпер патрэбнае добрае і лагоднае слова, чаму сварыцца, калі трэба мірыцца? Але справа не ў тым, каб я мірыўся з кімсьці там (асабіста я ні з кім не сваруся). Справа ў тым, што на 40-годдзе арганізацыі, якой і ніжэйпадпісаны з'яўляецца членам, улады маёй арганізацыі не запрасілі старшыні Беларускага саюза. Чаму не запрасілі? Таму што можа Беларускі саюз споўз на вузкую сцежку нацыяналізму, ці можа трохі інакш бачыць нашыя беларускія справы? А так, пры нагодзе, спадар Сычэўскі, я як член БГКТ хачу, каб вы адказалі на пытанні пастаўленыя Аляксандрам Максімюком з нагоды 40-годдзя БГКТ (глядзі: пытанні ў „Ніве" ад 4.02.1996 г.). Хацеў бы, думаю, не толькі я ведаць погляды і думкі старшыні БГКТ на розныя справы. Няма чаго баяцца, спадар Сычэўскі. Жывем у свабоднай дзяржаве, а ў найгоршым выпадку тых медалёў ад улад будзе менш чым сорак.

Са справаздачы М. Ваўранюка з урачыстага пленума Галоўнага праўлення БГКТ не вынікае, ці пры нагодзе прысутнасці стольких дастойных гасцей і прадстаўнікоў улад, Галоўнае праўленне дамагалася ад гэтых улад стварыць нармальныя ўмовы існавання беларускай меншасці і іх арганізацыі ў дзяржаве, ці не? Можа шырэй напіша М. Ваўранюк, у наступнай карэспандэнцыі? — Чакаю!

**Міхась Куптэль**

---

**Яніна Чэрнякевіч**

# Зорчына саракагоддзе

*(даклад на канферэнцыі з нагоды 40-годдзя „Нівы")*

Мая прыгода з „Нівай" пачалася восенню 1959 года. Пачала я працу карэктарам у друкарні. Якраз тады ніўскі карэктар Валя Жэшка нарадзіла свайго першынца Барыса і пайшла ў водпуск. І „Ніве" быў патрэбны працаўнік на яе месца. Ніколі тады мне і ў галаву не прыйшло, што гэтая прыгода зацягнецца аж на больш як трыццаць гадоў.

Дык у той час, калі я трапіла ў „Ніву", „Зорка" ўжо выходзіла, і то практычна асобнай газеткай як дадатак для дзяцей. Трэба схіліць галаву перад заснавальнікамі „Нівы", тады маладымі хлопцамі ды дзяўчатамі, нежанатымі і недзіцятымі, што яны ўжо ў першыя месяцы выхаду „Нівы" прыпомнілі аб дзецях, заўважылі і іх патрэбы. „Ніва" пачала выходзіць у сакавіку 1956, а ўжо летам у ёй з'явіўся сталы куточак для дзяцей. Называўся ён „Куточак для маленькіх". Вяла яго тады Вера Леўчук, сёння Валкавыцкая. Дзякуючы яе дыялогу з дзецьмі, малыя настолькі асвойталіся з газетай, што сталі дапамінацца ўсё большай колькасці матэрыялаў для іх. Дзеці прасілі нават рабіць для іх асобную газетку. Калі ж да іх просьбаў далучыліся бацькі і настаўнікі, галоўнаму рэдактару Георгію Валкавыцкаму давялося шукаць сродкаў на асобны дадатак. Сярод дзяцей быў аб'яўлены конкурс на назву дадатку для дзяцей. Прапановы былі розныя. Перамагла „Зорка" — як тады пісалі — як сімвал шчасця, святла і радасці. Мне сёння здаецца, што немалы ўплыў на назву мела тады вельмі папулярная песня „Зорка Венера".

Першым рэдактарам, як я ўжо сказала, фактычным стваральнікам „Зоркі" была Вера. У той час яна сама яшчэ была амаль вучаніцай. Проста з Беларускага ліцэя ў Бельску, з-пад уплываў Яраслава Кастыцэвіча і Ільі Захаравіча Берната, Вера — моцна паэтычная тады душа — умела сваімі патрыятычнымі словамі, вершамі захапіць і маладога, і старога чытача. Вера ўмела цёпла і па-сяброўску весці размову з чытачамі, заклікала іх любіць і шанаваць родную мову, паглыбляць веды аб сваіх родных куточках, вучыла ганарыцца тым, што ты беларус. Гэта і на той час, ды думаю, што і цяпер таксама, былі вельмі важныя моманты ў рэдагаванні газеткі для дзяцей. І я з поўным разуменнем таго пераняла ад Веры гэты нацыянальны сцяг, гэты дух нацыянальнай годнасці.

Мне даручылі рэдагаваць „Зорку" ў 1961 годзе. Наколькі мне ўдавалася выхоўваць „Ніве" чытачоў, інакш кажучы, у дзецях гартаваць нацыянальнае пачуццё — сёння не мне ацэньваць. Нельга толькі сказаць, што мы не стараліся і не шукалі розных спосабаў, каб усё ж нас чыталі. А шляхі да гэтага былі розныя. Перш за ўсё сама газетка павінна быць цікавай для дзіцяці. А дзеці нашыя, як і ўсе дзеці на свеце, розныя. І трэба кожнаму знайсці нешта для яго. Таму я лічыла, што „Зорка" павінна быць шматтэматычная, а яшчэ лепш, каб кожны чытач ведаў, у якім месцы ў газетцы ён знойдзе тое, што якраз яго цікавіць. І такім чынам „Зорка" сама пачала дзяліцца на розныя куточкі. Перш за ўсё дзецям патрэбны былі чытанкі — апавяданні, казкі, вершы. Друкавалі кароткія творы беларускіх пісьменнікаў, але стараліся падбіраць так, каб фармаваць у дзяцей вартасныя агульначалавечыя якасці — як сардэчнасць да чалавека, чуласць да прыроды і ўсяго акружаючага нас свету. Творы даводзілася вышукоўваць з кніжак, якія ўдавалася даставаць у Беластоку. Добра, што была кнігарня па вуліцы Кілінскага, дзе хоць і ў малых колькасцях, але трапляліся і беларускія кніжкі.

З часам аб „Ніве" з „Зоркай" пачалі даведвацца і пісьменнікі з Беларусі. Здаралася, нехта нават з масцітых аўтараў прыязджаў да нас, некаторыя наладжвалі лістоўныя кантакты. Я кожную такую нагоду выкарыстоўвала вельмі дакладна. Старалася выцягнуць ад госця яго літаратурныя навінкі. Часам сама асабіста звярталася да рэдактараў беларускіх часопісаў „Вясёлкі" і „Бярозкі" з просьбай падзяліцца матэрыяламі да друку. Амаль заўсёды інфармавала, што на ганарары лічыць не павінны, бо з гэтым наша рэдакцыя заўсёды мела клопаты. Але гэта якраз для пісьменнікаў не мела значэння. Не здарылася, каб нейкі пісьменнік па гэтай прычыне адмовіўся нешта дасылаць. Найчасцей на мой водгук я атрымлівала і кніжку, і прапанову сустрэцца, наведаць аўтара ў Менску ці Гародні. А Вісарыён Гарбук, можа не ўсім у нас вядомы дзіцячы пісьменнік, які пасля ваенных кантузій вымушаны быў жыць на цяплейшым Каўказе, запрашаў мяне наведаць яго аж у Пяцігорску.

Вядома, рэдакцыя „Зоркі" была, можна б так сказаць, аднаасабовай. Я часта ўжываю слова *мы*, хоць увесь час „Зорку" рабіла адна асоба. Я раблю гэта свядома. Хачу асабліва падкрэсліць, што ўсё, што рабілася ў „Зорцы", абмяркоўвалася і з галоўным рэдактарам „Нівы", і з сябрамі-журналістамі. З імі я дзялілася і ўдачамі, і клопатамі, часта разам выпрацоўвалі мы шляхі дзеяння. У першыя гады, а можа і ў дзесяцігоддзі, у „Ніве" рэгулярна адбываліся гэтак званыя ацэнкі. Гэта былі сяброўскія ацэнкі працы кожнага з нас. Не заўсёды ўдавалася пазбегчы разносу сяброў, бо крытыкі нікому не шкадавалі, але гэта была някепская школа журналістыкі. Асаблівая роля ў маім змаганні з „Зоркай" прыпала Веры Валкавыцкай. Працуючы ў адным пакоі, мы не маглі не дзяліцца сваімі помысламі. А ў Веры помыслаў было заўсёды аж занадта. Толькі не заўсёды хапала часу на іх рэалізацыю. А я мела з чаго выбіраць. З супольных думак нараджаліся выезды, а затым і блуканні па вёсках у пошуках цікавых матэрыялаў. Не скажу, каб тыя выезды нам абедзвюм не падабаліся. Абедзве мы любілі сустрэчы з вясковымі людзьмі. Тады наладжваліся сталыя і незабыўныя сяброўствы, якія трывалі гадамі, і думаю, некаторыя нашы сябры памятаюць нас і сёння.

У Польшчы „зорчынымі" знаёмымі былі „Свершчык" і „Пломычак". Калі нехта з даследчыкаў надумаецца перагледзець даўнейшыя гадавікі „Зоркі", дык знойдзе там віншаванні з нагоды нейкага юбілею ды пажаданні, былі і запрашэнні наведаць варшаўскія рэдакцыі. Усё гэта рабілася па тое, каб нашым чытачам знаходзіць новыя і цікавыя чытанкі. Трэба сказаць, што і школам патрэбна была наша дапамога. Дапаможнай літаратуры для навучання беларускай мове амаль тады не было. Настаўнікі амаль заўсёды выкарыстоўвалі на ўроках „Зорку". Дзеці і вершыкаў вучыліся, і казкі апрацоўвалі ў ролях. А перад настаўнікамі часта ставала праблема рэпертуару на школьныя ўрачыстасці, і з гэтымі кло-

# Праваслаўныя прыходы ў Беластоку

Пачаткі хрысціянства на Беласточчыне цесна звязаны з Праваслаўнай царквою. Першыя цэрквы паўставалі разам з заснаваннем рускіх гарадоў у Бельску, Драгічыне, Мельніку ці Суражы. Да сённяшняга дня захаваўся ў Гродне мураваны храм св.св.Барыса і Глеба XII стагоддзя. Развіццё царкоўнай арганізацыі пачалося тады, калі тэрыторыя сённяшняй усходняй Беласточчыны апынулася спачатку ва ўладанні тураўска-пінскіх, а затым галіцка-валынскіх князёў. З гэтага перыяду паходзіць найстарэйшая пісьмовая звестка аб Багародзічнай царкве ў Мельніку. У Іпацьеўскім летапісе пад 1260 годам запісана, што Даніла Раманавіч выслаў князя Васілька заваяваць літоўскія землі: *Ехал Василько за брата и проводи его до Берестя и посла с ним люди, и помолися Богу, святому Спасу Избавнику, яже ест икона в городе Мельницы в церкви св. Богородицы, ныне стоит в велице чести и обещася Данило король украсити ю.* Працэс развіцця прыхадской структуры не спыніўся пасля далучэння падляшскіх земляў да Вялікага княства Літоўскага. Разам з развіццём рускага асадніцтва заснояваліся новыя цэрквы і манастыры. У канцы XVI стагоддзя на Падляшшы было больш за 146 праваслаўных прыходаў. Прыходы, якія знаходзіліся на поўнач ад ракі Нарвы, падлягалі юрысдыкцыі кіеўскіх мітрапалітаў, якія мелі тады свае сядзібы ў Вільні або Навагрудку.

Першая праваслаўная царква на тэрыторыі сённяшняга Беластока была ўзведзена ў XVI стагоддзі. Заснаваў яе ў сваім беластоцкім маёнтку ўладальнік двара ў Дайлідах і горада Заблудава, праваслаўны магнат **Рыгор Хадкевіч**. Будучы ўжо вялікім гетманам літоўскім, 21 чэрвеня 1571 г. надаў ён дайлідскаму духоўнаму Кузьме Дымітровічу валоку зямлі і дзесяціну ў вёсцы Крыўляны. Хадкевічы былі фундатарамі многіх цэркваў вакол беластоцкіх маёмасцей: у Тапільцы, Фастах, Бацютах, Заблудаве і вядомага Супрасльскага манастыра. Дайлідскі прыход быў заснаваны не толькі дзеля абслугоўвання жыхароў дайлідскага двара, але таксама навакольных маёнткаў. У 1628 г. настаяцелем Дайлідскага прыхода быў Рыгор Чарняўскі, які *według dawnego prawa i posesji swej przy tej cerkwi wolno trzyma zaściank spola od rzeki Doylidy (...) aż do rzeczki Białegostoku, która idzie ode wsi Doynowy. Na tymże zaścianku cerkiew z dzwonnicą, budowanie jego, ogrody i sianożęć.* Дайлідская царква першапачаткова была высвячана ў гонар **Нараджэння ПДМ** і **св. Прарока Ільі**. У той час уладальнік беластоцкіх маёмасцей Пётр Весялоўскі заснаваў каталіцкі касцёл Узнясення ПДМ (1617 г.). Усё XVII стагоддзе праваслаўных жыхароў беластоцкіх маёмасцей абслугоўвала дайлідскае духавенства, а каталіцкіх — пробашчы Узнясенскага касцёла. Асноўныя змяненні ў сакральным будаўніцтве адбыліся тады, калі ўладальнікамі Беластока стала сям'я Браніцкіх Грыфітаў.

Узнікненне новых сакральных аб'ектаў усходняга абраду трэба спалучаць з асобай **Яна Клеменса Браніцкага**. Гетман каронны ў 1749 г. дабіўся ў караля Аўгуста III Саксонца гарадскіх правоў для сваёй родавай рэзідэнцыі. З гэтай пары Беласток стаў самым вялікім гарадскім асяродкам на Падляшшы і важным цэнтрам культурнага жыцця. Змяненне ролі горада прыцягнула сюды асаднікаў, а ў выніку таксама і новыя касцельныя інвестыцыі. Ян Клеменс Браніцкі заснаваў дзве капліцы — св. Роха (1750 г.) і **св. Марыі Магдаліны** (1768 г.). Капліца св. Марыі Магдаліны, пазней царква, была мураваная, накрытая чарапіцай з адным белым купалам. Магчыма, у гэтым жа перыядзе Ізабела і Ян Клеменс Браніцкія заснавалі царкву св. Мікалая, як філіял царквы ў Дайлідах, для тутэйшага рускага насельніцтва. У апісанні візітацыі царквы ў Дайлідах ад 1773 г. чытаем: *Cerkiew pt. św. Mikołaja, fundacji i kolacji J. O. książąt Branickich, kasztelanów krakowskich, drewniana, wapnem tynkowana, dachówką kryta, z trzema kopułami, z krzyżami żelaznymi, gałkami pozłacanymi.* Гэта самае даўняе вядомае нам апісанне першай царквы **св. Мікалая Цудатворца**. Царква гэтая была пабудавана пры вул. Хароскай, непадалёк сённяшняга сабора. У непасрэдным суседстве царквы знаходзілася *юрыдыка*, якую састаўлялі некалькі пляцаў і жылых дамоў. Уласнасцю царквы св. Мікалая была валока грунту і сенакос. Вакол царквы заснаваны быў могільнік.

Рашэнне аб пабудове новай царквы ў Беластоку было выклікана неабходнасцю забяспечыць духовую апеку для пражываючага тут беларускага насельніцтва. Па візітацыі відаць, што *cerkiew dojlidzka pod tytułem Najświętszej Panny Narodzenia i świętego Proroka Eliasza fundacji i kolacji dawnej książąt Radziwiłłów, teraz ad prezens J. O. książąt Branickich, drewniana, gontami kryta, ruinie podległa.* Чарговая візітацыя царквы ў Дайлідах ад 1788 г. нічога не згадвае пра дрэнны тэхнічны стан храма. Упамінаецца ў ёй толькі, што мела яна дзве фондавыя валокі ў вёсцы Дайліды, а як філіял у Беластоку — адну. Агулам Дайлідскі прыход састаўлялі 14 вёсак. З гэтага вынікае, што царква св. Мікалая была пабудавана не з прычыны дрэннага тэхнічнага стану дайлідскага храма, а толькі дзеля заспакаення рэлігійных патрэб жыхароў Беластока.

Хуткае развіццё горада Беластока ў першай палове XIX стагоддзя прывяло да павелічэння колькасці жыхароў, у тым ліку і праваслаўнага насельніцтва. Лік праваслаўных пабольшыўся ў выніку вяртання уніятаў на лона Праваслаўнай царквы і прыезду значнай колькасці царскіх чыноўнікаў. У такой сітуацыі вырашана будаваць новы храм, побач драўлянай царквы на могільніку. Новая Свята-Мікалаеўская царква будавалася ў 1843—1846 гадах. Пры нагодзе быў ліквідаваны могільнік, а пахаванні былі перанесены на новыя могілкі вакол царквы Марыі Магдаліны. Новы храм узведзены быў у позневізантыйскім крыжава-купальным стылі і нагадваў архітэктуру царквы св. Аляксандра Неўскага ў Пецярбургу. Абодва храмы вылучаюцца падобнымі вежамі ў заходнім нефавым корпусе, купаламі на высокіх бубнах і падобным падзелам вонкавага фасада. Свята-Мікалаеўскую царкву асвяціў у 1846 г. мітрапаліт літоўскі і епіскап віленскі **Іосіф Сямашка**. Пасля завяршэння будовы беластоцкі храм быў прызнаны другой саборнай царквой Віленскай епархіі, а з 1900 года — Гродзенскага ўладыцтва.

*(заканчэнне будзе)*

**Антон Мірановіч**

патамі звярталіся яны да „Зоркі". Я старалася вышукоўваць драматычныя творы для дзяцей з беларускіх выданняў, прабавала перакладаць і апрацоўваць сцэнкі з беларускіх і рускіх часопісаў для дзяцей. Вядома, там пераважала піянерская тэматыка, якая ніякім чынам не падыходзіла да нашай рэчаіснасці. Таму часта ад той прататыпнай п'есы аставаўся толькі каркас, а рэшту трэба было рабіць уласную, выкарыстоўваючы часта вершы нашых беларускіх паэтаў. Такім чынам паўстала рубрыка, а нават спецыяльны дадатак — „На школьную сцэну". Прыгадаю яшчэ іншыя „зорчыны" куточкі. Папулярнасцю нават сярод дарослых карысталася рубрыка „Паглыбляй свае веды". Розныя цікавінкі з жыцця, незвычайныя з'явы прыроды, папулярныя веды аб здароўі чалавека ці лекавых раслінах, а таксама нямала матэрыялаў з нашай няпростай і завілай гісторыі, якія ў гэтыя часы нялёгка было знайсці, паколькі ў савецкай літаратуры гісторыя Беларусі пачыналася ад кастрычніцкай рэвалюцыі. Справа кардынальна змянілася пад канец маёй працы ў „Ніве", калі беларуская гістарычная навука вырвалася трошкі з-пад гэтак званай *інтэрнацыянальнай* цэнзуры і паявілася шмат наватарскіх распрацовак. Тады і наш куточак „Паглыбляй свае веды" запоўніўся новымі матэрыяламі. Ужо ў „Зорках" з другой паловы 80-х гадоў можна знайсці матэрыялы і аб нашай нацыянальнай сімволіцы, і аб старажытных беларускіх княствах, і тлумачэнне, што значыла калісьці слова „Літва" ды шмат-шмат іншых.

Нярэдка здаралася, што настаўнікі сігналізавалі недахоп падручнікаў для навучання беларускай мове. Праўда, міністэрства выдавала падручнікі для нашых дзяцей, але выходзілі яны са значным спазненнем, пераважна ўжо тады, калі ў школах не было з чаго вучыцца. Мы стараліся дапамагаць настаўнікам тым, што са згоды аўтараў проста кавалкамі друкавалі падручнікі ў „Зорцы" ці „Ніве", дапасоўваючы ўрокі да праграмаў. Вядома, у гэтым выпадку патрэбна было цеснае супрацоўніцтва з настаўнікамі, каб не друкаваць рэчаў мала прыдатных.

Былі яшчэ, думаю, цікавыя для дзяцей куточкі такія, як „Малюнкі школьнікаў" ці „Вучнёўская творчасць". Сябры памятаюць сталыя выстаўкі ў рэдакцыйным пакоі, дзе рэдагавалася „Зорка". Ганарам былі для мяне запрашэнні настаўнікаў на сустрэчы ў школы ці на настаўніцкія канферэнцыі. Яны дапамагалі мне рабіць „Зорку" такой, якая была патрэбная нашым чытачам. З гэтых паездак паяўляліся рэпартажы са школ, у якіх паказвалася вучнёўская пазаўрочная дзейнасць на беларускай ніве. Былі гэта апісанні беларускіх мастацкіх гурткоў, збіранне экспанатаў і арганізаванне школьных этнаграфічных куточкаў, навучанне дзяцей традыцыйнаму рукадзеллю і шмат-шмат іншых. Я старалася, каб у кожным нумары „Зоркі" нейкі такі матэрыял быў. Ну, але вядома, не заўсёды гэта было магчыма. Хачу прыгадаць яшчэ актыўны ўдзел „Зоркі" і ў правядзенні розных конкурсаў: і „Беларускай песні", і „Роднага слова", і тэатральных конкурсаў. Апрача рэпертуару, супрацоўніцтва заключалася ў друкаванні паведамленняў аб конкурсах, удзеле ў конкурсных камісіях амаль штогод ды прэзентацыі ў „Зорцы" найлепшых выканаўцаў.

Сёння „Зорка" адчувае сябе добра. Праўда, кожны новы рэдактар уносіць у рэдагаванне свой стыль і характар. Напрыклад, „Зорка" Міры Лукшы была больш літаратурная. Ганя Кандрацюк, як здаецца, з галавой увайшла ў асабістыя кантакты з вучнямі. Усё гэта вельмі патрэбнае. Варта толькі не забываць і пра зацікаўленні іншых чытачоў. Але да сёння шкада мне таго, што „Зорка" перастала быць асобнай газеткай, а стала старонкай для дзяцей. Для нас, усіх ніўцаў, тады гэта было непрымальнае. Але іншага выхаду не было. Мы доўга ўпіраліся, не згаджаліся на тое. Але выдавецтва націскала, бо „Зорка", друкаваная на плоскіх машынах, падарожвала кошты „Нівы", а дырэкцыя шукала ашчаднасцей. Тады дырэктар Лазаровіч, каб зменшыць нам прыкрасць, а вымагаў гэтага і тэхналагічны працэс друку, дадаў да „Нівы" яшчэ дзве старонкі, і такім чынам „Ніва" з васьмістаронкавай ды з асобнай „Зоркай" ператварылася ў адзіную з дванаццаццю старонкамі, як гэта выглядае і сёння. Можа, мае сённяшняе выступленне і выдасца мала скромным, дык наперад хачу запэўніць, што крытыкаў у нас ніколі не бракавала. Але ў „Зоркі" былі і сталыя супрацоўнікі і памочнікі. І ім хачу сёння падзякаваць. Не гаворачы ўжо пра свайго шматгадовага шэфа Юрку Валкавыцкага, які быў для мяне не толькі прафесійным, але і маральным аўтарытэтам, ці аб Веры Валкавыцкай, з якой мы практычна разам усе гады рэдагавалі „Зорку", я вельмі дзякую сваім сябрам-журналістам, якія хоць вялікімі намаганнямі, але даваліся намовіць напісаць час ад часу нешта і ў „Зорку". Дзякую Міколу Гайдуку, — ён найчасцей успамагаў мяне гістарычнымі матэрыяламі і казкамі, сабранымі на Беласточчыне. Дзякую Віктару Шведу за трыццацігадовае дасыланне сваіх вясёлых і мілых вершыкаў для дзяцей і за супольна праведзеныя сустрэчы ў школах. Дзякую ўсім дзяўчатам з тэхнічнага персаналу рэдакцыі і друкарні — на іх заўсёды можна было разлічваць, бо яны заўсёды дапамагалі журналістам значна больш, чым ад іх патрабавалі службовыя абавязкі. Асабліва дзякую ўсім настаўнікам, якія дапамагалі мне рэдагаваць „Зорку" сваімі парадамі, а часта і дасыланымі матэрыяламі. Дзякую тым літаратарам-„белавежцам", якія адважыліся ўзняцца да дзіцячай псіхікі і ствараць нешта для маладога пакалення. Асабліва маю тут на думцы Міру Лукшу ды Янку Целушэцкага. Дарэчы, Янка пачаў супрацоўніцтва з „Зоркай" будучы яшчэ вучнем, бадай, пятага класа. Дзякую ўсім, хто падтрымліваў ды і сёння падтрымлівае „Зорку" і верыць у неабходнасць яе існавання на Беласточчыне. „Зорка" праіснавала цэлых сорак гадоў і можна толькі цешыцца, што яна і сёння добра служыць беларускім дзецям, іх бацькам і настаўнікам.



*„Зорка" — Яніна Чэрнякевіч.*

**Яніна Чэрнякевіч**

# „Я марыла служыць беларускай справе"

У час святкавання юбілею 40-годдзя Беларускага грамадска-культурнага таварыства, візітатар Замясцовага аддзела Куратарыі асветы ў Бельску-Падляшскім **Тамара Русачык** была ўзнагароджана Сярэбраным крыжам заслугі Прэзідэнта Рэчы Паспалітай, медалём Камісіі нацыянальнай адукацыі, ганаровай граматай Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, сярэбранай адзнакай „Заслужаны Беласточчыне".

*— Пані Тамара, віншую з узнагародамі! Багата іх назбіралася.*

— Дзякую. Думаю, што прыйшла пара на мяне, а саракагоддзе было нагодай для майго начальства і дзяржаўных улад, каб мяне ўзнагародзіць.

*— Затое адбылося гэта ў так урачысты момант, з удзелам важных гасцей. Скажыце, калі ласка, дзе Вы пачалі свой настаўніцкі шлях?*

— Пасля заканчэння адукацыі на беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта ў 1977 годзе я распачала працу ў Пачатковай школе ў Маліннiках. Там давялося навучаць розным прадметам, у тым ліку і беларускай мове. З часам давялося мне дапрасіцца ў тагачаснай дырэктар, каб прыдзялілі мне толькі беларускую мову, якую я вельмі любіла і да навучання яе мела падрыхтоўку. Настаўніцай беларускай мовы я стала невыпадкова. Пашчасціла мне на добрых настаўнікаў. У пачатковай школе мяне вучыла Таццяна Шайкоўская, а ў ліцэі Зіна Красоўская (цяпер Дэмянюк). Гэта былі якраз настаўніцы, якія з сэрцам падыходзілі да сваёй працы і гэтае сэрца перадавалі сваім навучэнцам. Беларуская філалогія — гэта напрамак, аб якім я марыла. Будучы студэнткай я была першым беларускім дзеячам (ад студэнтаў) у Варшаўскім аддзеле БГКТ, дзе старшынёй быў Віктар Швед. Вялікі ўплыў на маю асобу мелі спадарства Зіна і Юрка Туронкі. У іх доме я была частым госцем, а дом іх быў чыста беларускі. Аднойчы ў час заняткаў на першым курсе д-р Тэрэса Ясінская пытала нас, што мы будзем рабіць пасля заканчэння універсітэта. Я адказала, што хачу вярнуцца на Беласточчыну і вучыць дзетак. З мяне смяяліся і гаварылі: „Знайшлася Сілачка *(персанаж з аднайменнай аповесці Стэфана Жаромскага — М.В.)* у дваццатым стагоддзі". Пасля пяцігадовай вучобы я сапраўды стала Сілачкай.

*— Вы, як відаць, насмешкі не ўзялі да сэрца.*

— Я цвёрда рэалізавала сваю пастанову. На пятым годзе настаўніцкай працы ў Маліннiках мне запрапанавалі штат настаўніка-метадыста беларускай мовы ў Аддзеле ўдасканальвання працы настаўнікаў у Беластоку. У кожнага метадыста павінна быць свая база, школа, дзе ён непасрэдна працуе з дзяцьмі, куды маглі б прыехаць настаўнікі, прыглядзецца да яго працы, параіцца. Такой маёй базай стала на дзесяць гадоў Пачатковая школа н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Потым зноў прыйшла прапанова заняць пасаду візітатара. У красавіку будзе чатыры гады працы ў Куратарыі.

*— Вы праводзіце кантроль толькі навучання беларускай мове?*

— Я праводжу цэласны кантроль школ у вызначаным мне раёне. А на гэты раён складаюцца школы ў гмінах: Орля, Чыжы, Нараўка, Гайнаўка, Белавежа і школа н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Апрача гэтага ў кожнага візітатара ёсць дадатковая дзялянка. У мяне дадатковым заданнем з'яўляецца каардынаванне навучання беларускай мове.

*— Аднак Вы не абмяжоўваецеся толькі службовымі абавязкамі, а складаеце яшчэ падручнікі, пішаце праграмы навучання.*

— Калі я пачала працу, матэрыяльная база навучання беларускай мове была вельмі скупая. Старыя падручнікі, ніякіх дапаможнікаў, апрача „Нівы" ніякай беларускай прэсы.

Аднойчы ў Старым Корніне трапіўся мне ў рукі метадычны часопіс „Народная асвета", аднак у іншых школах яго не было. Я з вялікай увагай перачытвала яго, выбірала што лепшае і перakaзвала іншым. Пісаць уручную доўгая справа. Таму, пабываючы першы раз у Мінску, я марыла купіць пішучую машынку. Гэта быў яшчэ час ваеннага становішча, мяне палохалі, што не перавязу яе цераз граніцу. Рашыла ўсё-такі купіць і купіла, а на граніцы ніхто і не пытаўся пра яе. Мара споўнілася, машынка ёсць, а друкаваць на ёй не ўмею. Давай сядзець і стукаць адным пальцам. Так і да сённяшняга дня я стукаю адным пальцам. Выступала два падручнікі, праграму, розныя дапаможнікі настаўнікам, расклады матэрыялу, цікавыя недаступныя тэксты, рэпертуар для дэкламатарскіх конкурсаў, а нават дзесяткі магістэрскіх дысертацый. Такім чынам я распаўсюджвала сярод настаўнікаў неабходныя ў працы цікавыя матэрыялы. Выкарыстоўвала я не толькі свае ўласныя магчымасці, але выкарыстала вопыт сваёй сяброўкі Ларысы Бурыла і яе мужа, намовіла напісаць метадычны дапаможнік для настаўнікаў а пазней сшытак практыкаванняў для другога класа.

*— Што лічыце сваім поспехам?*

— Найбольшым дасягненнем у сваёй працы лічу тое, што ніколі не трактавала яе як форму заработку. У кожнае сваё заданне я ўкладала сэрца і душу. Старалася гэта прывіць сваім вучням, а ў кантактах з настаўнікамі звяртала ўвагу, каб ніколі не ставіліся абыякава да сваіх абавязкаў. Таму я ніколі не абмяжоўвалася планам працы, а заўсёды выходзіла па-за яго межы.

Многія справы мяне трывожылі і я рашыла наладзіць кантакты з Выдавецтвамі школьнымі і педагагічнымі ў Варшаве, а менавіта з рэдактар Мартай Бурэк, з Інстытутам школьных праграм, з галоўным візітатарам Міністэрства народнай адукацыі, адказным за нацыянальныя меншасці. Арганізавала канферэнцыі, сустрэчы, у якіх часта прысутнічалі важныя асобы з розных асветных устаноў. Найбольш магутнай сустрэчай быў арганізаваны ў месяцы маі 1988 года двухдзённы з'езд настаўнікаў, дырэктараў школ, інспектараў з удзелам прадстаўнікоў асветных улад, БГКТ, лектараў з Мінска і іншых.

На гэтым з'ездзе я дабілася адкрыцця завочнага аддзялення беларускай філалогіі на Варшаўскім універсітэце. Адкрыла многім вочы, што беларуская асвета мае многа патрэб і да іх трэба ставіцца сур'ёзна.

Важным дасягненнем быў падручнік для другога класа „Васількі", перапрацоўка праграмы навучання беларускай мове для пачатковай школы і апрацоўка новай, зацверджанай Міністэрствам народнай адукацыі ў 1995 г., падручнік для трэцяга класа „Заранaчка".

Калі я пачала працу настаўніка-метадыста, аднавіла дзейнасць дэкламатарскага, тэатральнага, песеннага конкурсаў.

Супрацоўнічала я з тыднёвікам „Ніва", на старонках якога друкаваліся мае артыкулы па методыцы навучання беларускай мове ў рубрыцы „У дапамогу настаўніку". Добра было б у далейшым працягваць гэтую рубрыку.

У свой час была падпісана дамоўленасць паміж Куратарыяй і Гродзенскім абласным аддзяленнем нацыянальнай адукацыі і мне ўдалося пабываць на Рэспубліканскім семінары ў Гродне, прысвечаным праблемам навучання беларускай мове. Там я даведалася, што Міністэрства арганізуе алімпіяды па беларускай мове і адразу ў мяне ўзнікла думка, што нашая моладзь з агульнаадукацыйных ліцэяў таксама можа прымаць у іх удзел. І пачалося. Ад 1990 года па трое вучняў з кожнага ліцэя выязджаюць на Рэспубліканскія алімпіяды па беларускай мове ў Беларусь. Здараюцца нават пераможцы.





*Тамара Русачык прамаўляе на юбілейным пленуме БГКТ.*

У апошнім часе ўдалося сарганізаваць прадметны конкурс па беларускай мове для вучняў пачатковых школ, а для ліцэістаў — алімпіяду.

Наладзіла я сталыя кантакты з рэдакцыяй „Роднага слова", у выніку чаго ў кожнай школе ёсць камплекты часопіса за апошнія тры гады. І далей рэдакцыя перасылае нам часопісы пры кожнай нагодзе. Апошнія нумары былі давезены калектывам „Крупіцкія музыкі".

Каб атрымоўваць іншую беларускамоўную прэсу з Мінска, трэба было мне напісаць пісьмо ў Вярхоўны Савет Беларусі. Па сённяшні дзень дасылаюць нам праз пасрэдніцтва Педагагічнай бібліятэкі ў Беластоку такія перыядычныя выданні, як „ЛіМ, „Дзеці і мы", „Пралеска", „Вясёлка", „Пачатковая школа", „Спадчына", „Настаўніцкая газета".

Многа працы было выканана дзеля настаўніка. Кожны год арганізуюцца курсы павышэння кваліфікацый для настаўнікаў у Мінску. Быў сарганізаваны конкурс на найлепшага настаўніка, завяршэнне якога адбылося на Беларусі, дзе таксама праводзіўся такі самы конкурс. Шэсць найлепшых нашых настаўнікаў мела магчымасць прыглядзецца працы майстроў беларускай асветы ў Гродне, Смаргоні, Навагрудку, Ваўкавыску, Слоніме.

Гэтае мерапрыемства многаму навучыла нашых педагогаў і паспрыяла ўвядзенню нечага новага ў навучанне беларускай мове.

Гэта я адкрыла дарогу настаўніку беларускай мовы, каб мог здабыць званне настаўніка спецыяліста.

Наладжана таксама добрае супрацоўніцтва з Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, якое арганізуе экскурсіі для нашых дзетак, дасылае патрэбныя нам падручнікі, мастацкую літаратуру, займаецца наборам нашай моладзі ў вышэйшыя навуковыя ўстановы. Я таксама ўваходжу ў склад гэтай камісіі.

*— Калі пра гэта, дык як ацэньваеце вучобу ў Беларусі, бо рознае пра нашых студэнтаў там чуваць?*

— Сапраўды, пра нашых студэнтаў гавораць не толькі дрэнна. Многія з іх з'яўляюцца выдатнікамі. Мне асабіста вельмі сумна, калі гавораць дрэнна. Сярод моладзі здараецца рознае. Выехалі ў чужую краіну, далёка ад бацькоў, адчуваюць вялікую свабоду, таму некаторыя праводзяць сябе вельмі непрыстойна. Найбольш балючая справа гэта абыякавасць да вывучэння беларускай мовы. Пасылаючы моладзь на вучобу ў Беларусь, мы ўпэўнены, што да нас вернуцца спецыялісты, якім беларуская справа не будзе абыякавай і яны будуць нашымі прадаўжальнікамі. Аднак з другога боку гледзячы, моладзь не мае з каго браць узор. Пражываючы ў краіне, у якой праводзіцца рэферэндум ці беларуская мова мае быць ці не, нацыянальная сімволіка мяняецца неканстытуцыйным чынам, на вуліцы, у трамваі не чуваць беларускай мовы, дык як быць гэтым маладым людзям?! Хаця віна тут не толькі на баку беларускай дзяржавы. Вялікі ўплыў мае бацькоўскі дом, школа, пачынаючы з пачатковых класаў, настаўнікі. Абагульняць нельга. Калі хтосьці цураецца роднай мовы, не павінен ехаць на вучобу ў Беларусь.

*— Што цяпер робіцца дзеля рэформы навучання беларускай мове?*

— На сённяшні дзень няма ў нас новай праграмы для агульнаадукацыйнага ліцэя. Аднак праца над новай праграмай распачалася і ёсць згода Міністэрства народнай адукацыі на яе апрацаванне. Распрацоўку плануем завяршыць да канца навучальнага года. У выдавецкія планы занесены новыя падручнікі для чацвёртага класа, сшыткі практыкаванняў для трэцяга і чацвёртага класаў, метадычныя дапаможнікі да новых падручнікаў. У гэтым годзе выйдуць з друку падручнік для трэцяга класа і сшытак практыкаванняў для другога класа.

*— А чаго яшчэ б Вы сабе жадалі ў далейшай працы?*

— Перад усім жадаю добрага здароўя, спакою, надзейных і адказных супрацоўнікаў і зразумення ў людзей. Для беларускай справы жадаю, каб усе людзі добрай волі памаглі ажыццяўляць усе патрэбы, а яны ў нас нармальныя, жыццёвыя. Хачацца, каб знайшліся спонсары, якія дапамогуць выдаць хрэстаматыю па школьнай літаратуры, прызначыць сродкі на добрыя ўзнагароды для ўдзельнікаў усіх школьных конкурсаў. А маем іх вельмі многа і на высокім узроўні.

Жадаю, каб усе настаўнікі не толькі навучылі сваіх вучняў грамаце, але каб выхавалі з кожнага Асобу, якая ведае сваю мову, гісторыю, культуру, якой можна ганарыцца. Яшчэ хачу сказаць, што нас беларусаў на Беласточчыне вельмі мала, а спраў вельмі многа. Нам нельга дзяліцца, аплёўваць адзін аднаго. Трэба глядзець на чалавека і ацэньваць яго паводле таго, што ён робіць, якія прадстаўляе вартасці, а не паводле арганізацыйнай прыналежнасці. Усе нашы арганізацыі павінны спрыяць навучанню роднай мове, культуры, традыцыі. Толькі тады зможам нечага дабіцца, калі будзем аб'яднаны ў адно. У гурце сіла!

*— Дзякуй за размову. Жадаю яшчэ больш поспехаў.*

гутарыў **Мікола ВАЎРАНЮК**

*Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА*

# Позірк у мінулае

**24 сакавіка**

809 г. — памёр Гарун-ар-Рашыд, абасідскі халіф.

1794 г. — пачатак паўстання Тадэвуша Касцюшкі ў Кракаве.

1831 г. — Венесуэла стала самастойнай дзяржавай пасля выхаду са складу Калумбіі.

1882 г. — нямецкі бактэрыёлаг Роберт Кох выдзяліў узбуджальнік туберкулёзу.

**25 сакавіка**

1786 г. — нар. Джавані Амічы, італьянскі астраном, вынаходца першага люстравага тэлескопа.

1863 г. — нар. Сіман Флекснер, амерыканскі бактэрыёлаг, адкрывальнік узбуджальніка дызентэрыі і дзіцячага паралічу.

1867 г. — нар. Артура Тасканіні, італьянскі дырыжор.

1918 г. — Рада Беларускай Народнай Рэспублікі выдае Устаўную грамату, у якой апавяшчае незалежнасць Беларусі.

1947 г. — нар. Элтан Джон, англійскі рок-музыкант.

**26 сакавіка**

1971 г. — шэйх Муджыбур Рахман аб'явіў Усходні Пакістан незалежнай рэспублікай Бангладэш.

1979 г. — у Кэмп-Дэвід падпісана мірны дагавор паміж Ізраілем і Егіптам.

**27 сакавіка**

1845 г. — нар. Вільгельм Рэнтген, нямецкі фізік.

1914 г. — у Бруселі праведзена першую трансфузію крыві.

1940 г. — выйшаў загад Гімлера аб заснаванні канцлагера Аўшвіц.

1968 г. — загінуў Юры Гагарын, першы касманаўт.

**28 сакавіка**

1592 г. — нар. Ян Коменскі, чэшскі тэолаг, заснавальнік сучаснай педагогікі.

1871 г. — пралетарская рэвалюцыя аб'яўляе Парыжскую камуну.

1938 г. — войскі ген. Франка уваходзяць у Мадрыд; канец грамадзянскай вайны ў Іспаніі.

1972 г. — Генрык Яблонскі замяняе Юзафа Цыранкевіча на пасадзе старшыні Рады Дзяржавы.

**29 сакавіка**

1943 г. — нар. Джон Мэйджэр, англійскі палітык.

1950 г. — амерыканскі канцэрн RCA апрацаваў першы каляровы кінескоп.

**30 сакавіка**

1135 г. — нар. Майсей Майманід, яўрэйскі лекар і філасаф.

1282 г. — у Палерма (Сіцылія) падчас вячэрні ў велікодны панядзелак выбухла паўстанне супраць французскага панавання.

1842 г. — амерыканскі лекар Краўфард Лонг упершыню прымяніў этылавы эфір для наркозу.

1853 г. — нар. Вінсент ван Гог, нідэрландскі маляр.

1867 г. — за 7,2 млн. долараў ЗША купілі ад Расеі Аляску.

1945 г. — нар. Эрык Клаптан, англійскі гітарыст. **(Ш)**

# Віраванка




1. сталіца Польшчы, 2. горад між Маладзечнам і Навагрудкам, 3. крыжаносцы, 4. японская выспа, 5. італьянскі пісьменнік, аўтар „Рымлянкі", 6. працавітае насякомае, 7. кандытарскі выраб з какавы і цукру, 8. баваўняная тканіна, 9. вайсковае званне, 10. кампазіцыя Агінскага „Развітанне з Радзімай", 11. літоўскі прыморскі курорт, 12. зніштэнне пасеваў жывёлай.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 5 н-ра:

**Гарызантальна:** рэха, Катар, лірыка, азот, парад, апарат, рэстаран, мадам, калевала, карэктар, Ісаак, мастачка, Каліта, алмаз, дуга, Тамара, Ямбал, Тула.

**Вертыкальна:** сабака, Самара, экзотыка, алтар, аркан, склад, дэмакрат, палеміка, мука, дора, баба, маяк, архангел, салома, ахапак, Тарас, Мідас, Садат.

**Кніжныя ўзнагароды высылаем: Анне Самборскай** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.

# ВЕР–НЕ–ВЕР

Астроне! Мы з братавай у маёй вёсцы. Знаходзімся на бацькоўскім панадворку (бацькі ўжо няма ў жывых, толькі жыве тут другая жонка майго бацькі, мама памерла маладой). У сне бацька з жонкай пры хлявах штосьці робяць. Я ўваходжу ў хату, а там на падлозе брудна — чорны пясок, нанесены абуткам з панадворка. Я падумала: трэба памыць падлогу. Узяла міску з вадой, але падлогі не мыю, трымаю тую міску, пасля стала на парозе ды выліваю з яе ваду на панадворак. Раблю гэта неяк нязручна, замест выйсці і выліць на панадворку, хлюпаю з парога. Бацька ўбачыў гэта, ды кажа: „Як жа ж ты выліваеш тую ваду?" І я прачнулася.

У наступную ноч прыснілася мне, што мы з мужам у яго роднай вёсцы. На вуліцы многа святочна апранутых людзей, быццам свята нейкае вялікае. Знаходзімся ў хаце бацькоў (яны даўно ўжо не жывуць). Астаўся там брат мужа — адзін, яго жонка памерла. А тут у сне стаім на кухні. Прыходзіць з панадворка братавая ды пачынае нам рыхтаваць ежу. І тут сон скончыўся.

**Галена**

Галена! У тваёй хаце могуць паявіцца нейкія „бруды" — гэта значыць будуць плёткі, непрыемнасці, а ты будзеш хацець ад іх пазбавіцца. Нешта ў цябе з гэтым не надта добра выйдзе, так як не выйшла з выліваннем тае вады, за што і аблаяў цябе твой бацька-нябожчык. Бацька, як ведаеш, заўсёды прадвяшчае, што ў жыцці паявяцца нейкія непрыемнасці, непаразуменні, клопаты.

У другім сне вы ізноў у бацькоўскай хаце, на гэты раз у бацькоў мужа. Ізноў бацькі. Нябожчыца-швагерка рыхтуе ежу. Ой, будуць нейкія праблемы.

**Астрон**

# ПАРНАСІК

## Пад вясну

Сакавік — пачатак вясны,
Ды снег і мароз не паддаюцца.
І ведаем мы тыя дні —
Яны з часам адазвуцца.
Знойдуць апору, каб адарвацца
Ад зімы; і то хутчэй,
Вясною чаканаю назвацца —
Наперад нам ісці мудрэй.
Сіноптыкі нам прарочаць,
Што зіма яшчэ ў разгары.
Магчыма праўда, а мо марочаць;
Вясна з зімой не ў пары.
А дзень даўжэе і то як!
І сонца падымаецца.
Цяпло да нас прыдзе, аднак,
А гоман птушак разліваецца.
Яны найлепш разбіраюцца,
Калі да нас прыдзе вясна.
Галінкі дрэў — і яны кланяюцца
Сакавіку — каб наша доля расла.

**Мікалай Панфілюк**

Я, ты, яно
Я і ты!
Двое нас.
Я, ты і яно!
Трое нас.
Хутка мінаюць гады.
Яно дараслее.
У яго сваё жыццё.
Мы старэем.
Не захапляймася чужым.
Сваё ўсе шануйма.
Я, ты і яно да смерці
будзем свядомымі беларусамі.

**Аўрора**

З былога

# Багаты беднаму не пара

Перад другой вайной багаты рэдка калі браў за жонку бедную. У адной вёсцы пакахаў багаты хлапец дачку з небагатай сям'і і намогся ажаніцца з ёю. Спачатку яго бацькі не хацелі думаць аб жаніцьбе, але калі сын сказаў, што пойдзе ў свет, пасаромеліся суседзяў і далі згоду. Свякруха пры кожнай нагодзе дакучала нявестцы, як магла.

Да Дзядоў усе рыхтаваліся як да вялікага свята, збіраліся ў госці. Да сям'і Ш. госці не прыехалі — бацькі Ганны не мелі з чым прыехаць, а свёкры ехаць да іх ды везці падарункі нават і не думалі.

Селі вячэраць. Маці паглядзела з дакорам на сына і ягоную жонку і сказала:

— Вось бачыш, сынку, каб узяў ты жонку з багатага роду, была б табе гасціна, а так — няма нічога. Багаты беднаму не пара.

З Ганніных вачэй паплылі слёзы.

— Ведаеце, дзядзінка, — расказвала пасля сваячцы, — тыя слёзы ўдавілі мяне. Адхацелася мне есці ў той вечар..

* * *

Было гэта зараз пасля вайны. Хто на базар ехаў на фуры, а хто выбраўся пешшу, стараўся паспець на *тарпеду* — так тады называлі цягнік.

Верка ўстала вельмі рана. Управілася дома і ў хлявах, закінула клунак на спіну і пайшла на станцыю. Некалькі дзесяткаў метраў не хапіла, каб дабегчы ёй да цягніка. Рашыла ісці пешшу.

Ідзе, ідзе, канца дарогі не відаць, аж даганяе Верку дзядзька на салідная фуры, запрэжанай у рослага, прыгожага каня.

— Падвязіце мяне, добры чалавеча, — папрасіла жанчына.

— О, падвязі, падвязі! — дзядзька злосна сцебануў каня пугою.

Патэпала Верка далей, паправіўшы на намулянай спіне клунак. Аж убачыла гаспадара, што ехаў на ліхай фуры, запрэжанай у дохлага, слабенькага коніка. Верка ўжо нават не прасіла падвезці — каніска ледзьве сам ногі валочыць!

— Сядайце, цётачка! — запрасіў гаспадар Верку на воз.— Не бойцеся, мой „араб" дасць сабе рады!

Верка расказала дзядзьку пра фанабэрыстага вазака.

— А такіх і не трэба прасіць! — адказаў той. — Багацей не зразумее бедняка!

**Аўрора**

## Даўнейшыя прымхі

Дапусцім, што хтосьці меў „кепскія вочы" і калі глянуў з зайздрасцю на якую-небудзь хатнюю жывёлу — прыгожае цяля, карову або каня, ледзь адышоў, ураз каторaесь з іх падала на зямлю як падкошанае ды ад болю сукатала нагамі. Можа той чалавек зусім гэтага не хацеў, можа несвядома шкодзіў.

Што тады рабілі, каб ніхто не мог сурочыць (урачы) ладную жывёлу? Перавешвалі цераз шыю або чаплялі на рогі жывёле кусочкі чырвонага сукна. Гэтаксама маладым жарабяткам упл잣алі ў грыву чырвоныя банцікі або махор. Падобна з малымі дзяцьмі. Заўсёды памяталі, каб нешта з дзіцячай вопраткі мела чырвоны колер. Было агульнавядома, што чырвоны колер засцерагае ад урокаў.

Бывала, што калі дзіця не было забяспечанае, то хаця было здаровае як рыба, дык калі хто-небудзь сустрэў і яшчэ пахваліў, што моў хутка расце і такое прыгожанькае, то ўжо неўзабаве малыш віўся ад болю жывата, вішчаў. Тады перацягвалі яго цераз старую жаночую спадніцу, і гэта... дапамагала.

Інакш паступалі ў выпадку, калі нехта моцна спалохаўся. Напрыклад, дзіця перапалохалася сабакі і ўначы не магло заснуць, плакала, галасіла хаця не было хворае. Тады стрыглі крыху шэрсці з таго сабакі, кідалі яе і свянцонае зелле на распаленыя драўляныя вугольлі і акурвалі дзіця акружным рухам два разы ўдзень: перад усходам і перад заходам сонца. Рабілі гэта некалькі дзён.

**(яц)**





„Niwa"

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міргановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

# Сентэнцыі

Седзячы на драбіне, студні не выкапаеш.

* * *

Хлусня, як бумеранг, робіць замкнутую крывую.

* * *

У скептыка тая перавага, што абмінае яго расчараванне.

* * *

Не ідзі з ветрам, калі вакол ціша.

* * *

Мінулае шануй, не пажадай.

* * *

Якая каса, такі і пакос.

* * *

Мова на розуме стаіць.

* * *

У кахання адзін памер — і на парозе, і на сіле жыцця.

* * *

Уласныя палацы будуюцца цяжка.

**Барыс Руско**

# Куды пайсці

Куды пайсці, за што ўзяцца,
Каб больш у рове не купацца.
Трэ змяніці сваю скуру,
Выгнаці кепску натуру,
Каб гарэлкі больш не піці,
Тады будзе лепей жыці,
Каб еднасць у сям'і трымаці.
Так калісь казала маці:
„Знай, сынок, не ўпівайся,
Ад работы не ўхіляйся,
Сваёй працай ганарыся
Ды нізка Богу пакланіся,
Тады знай, сыночак мілы,
Цябе будуць усе любілі,
З табой будуць сустракацца
Ды ў бядзе будуць яднацца".

# Ой, Божа...

Ой, Божа ж мой, Божа,
Чаго я радзіўся!
Навошта пісаці
Ў „Ніву" навучыўся?
Можа з ласкі Божай,
А можа з натуры
Пашыраць я буду
Родную культуру.
Пісаў, пісаць буду,
Няхай людзі знаюць,
Нашу родну „Ніву"
Як найбольш чытаюць
І „Ніўкай" таксама
Няхай весяляцца
Ад роднага слова
Каб не адракацца.

**Мікалай Лук'янюк**

# Ніўка



*Мал. Леаніда Разладава*

*З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне*

# Сардэчная падзяка

Дарагім маім, невядомым мне асабіста, маладым сябрам — вучням Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім:

Адаму Кардзюкевічу, Луцэ Сцепанюку, Яну Нікіцюку, Марку Літвінюку, Пётру Іванюку, Рыгору Зінкевічу, Міраславу Пацу, Яраславу Якімчуку, Тамашу Лукашуку, Анэце Сідарук, Ганне Лазовік, Альжбеце Шышковіч, Анелі Сушч, Барбары Ярашук, Яраславу Ліпінскаму, Марку Байко, Лёніку Сустрэчы, Андрэю Саковічу, Андрэю Якімюку, Міраславу Старчэўскаму, Яраславу Сахарчуку і аднаму невядомаму ліцэісту,

якія рашуча запратэставалі ў 2 (2070) нумары „Нівы" ад 14 студзеня г.г. (с. 11) супраць здзекаў рэдакцыі над маёй асобай, гэтым шляхам выказваю сваю ветлівую сардэчную падзяку. Шчасці Вам Божа ў маладым жыцці!

Адначасова я салідарызуюся з Вамі і выказваю свой рашучы пратэст супраць здзекаў рэдакцыі над Вамі!

Шчыра дзякую Вам, маладыя Сябры, за шчыры, натхнёны і шляхетны парыў Вашых юнацкіх сэрц! Так ідуць да зорак!

**Ваш Юры Трачук**

# Смех у санаторыі

## або „Дауціпы" Андрэя Гаўрылюка

У едучы цягнік ускоквае малады мужчына і, засопшы, асоўваецца на сядзенне.

— Якая гэтая цяперашняя моладзь, — круціць галавою пажылы чалавек, — калі я быў у тваіх гадах, мог гнаць цягнік нават гадзіну і ніколі не засопся.

— Ну так, я на гэты цягнік спазніўся ўчора вечарам і толькі цяпер яго дагнаў.

* * *

Размова ў чарзе перад крамай:

— Ці вы апошні?

— Не, ёсць горшыя ад мяне.

— Ці вы стаіце на канцы?

— Не, на нагах.

— Свіння!

— Вельмі мне прыемна; я — Кавальскі.

— Пацалуйце мяне ў штосьці!

— Ну, што вы! Я сюды прыйшоў па апельсіны, а не дзеля пяшчот.

* * *

— Ало, тут Новак. Пан доктар, прыязджайце хутчэй! У маёй жонкі востры прыступ апендыцыту.

— Не хвалюйцеся, пан Новак. Два гады таму я сам асабіста выразаў вашай жонцы апендыкс. Ці чулі вы, каб у жанчыны другі раз знайшоўся апендыкс?

— А ці пан доктар чуў, што ў чалавека можа знайсціся другая жонка?

* * *

У медыцынскі кабінет уваходзіць маладая афіцыянтка на медыцынскі агляд.

— Ці мне трэба распрануцца? — пытае маладога мужчыну ў белым.

— Калі ласка.

Мужчына абследаваў яе дакладна, абмацаў, і кажа:

— Я тут ніякай хваробы не бачу; можа лекар нешта знойдзе.

— Лекар?! А вы хто?

— Я тут буду маляваць сцены.

* * *

Прыходзіць баба з дзіцём да лекара:

— Ой, пані! Ваша дзіця такое бруднае!

— Як гэта бруднае! Мыю яго штодзённа.

На гэта лекар бярэ кавалак ваты, макае яго ў спірт і пацірае шыю дзіцяці:

— А гэта што!? Бруд!

— Ну, так, хімічным спосабам я малога не чысціла.

* * *

Прыходзіць баба да лекара з нажом у калене.

— Што з вамі здарылася? — пытае лекар.

— Хацела ўчыніць самагубства.

— Дык чаму ж убілі нож сабе ў калена?

— Бо знаёмая гаварыла, што, каб трапіць у сэрца, трэба меціць тры пальцы пад грудзі.

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Яшчэ калі я была дзяўчынкай, маці асцерагала мяне перад жанатымі мужчынамі. „Нягодныя яны! — казала. — Выкарыстаюць дзяўчыну ды кінуць. Мала калі такі адмовіцца ад жонкі і дзяцей дзеля нейкай новай дзяўчыны!"

Я маміны рады памятала вельмі доўга і мне нават думалася, што жыццё можна рэгуляваць так, як хто хоча. А выйшла ўсё інакш.

Я даязджала на працу ў Беласток і калісь у цягніку пазнаёмілася з прыгожым маладым мужчынам. Абручальнага пярсцёнка ў яго не было, адкуль мне было ведаць тады, што ён жанаты... Не буду ж я яму адразу задаваць такія пытанні, быццам адразу ўжо і замуж за яго збіраюся. А размаўлялася нам надта міла. Я яму нават сказала, дзе я працую і што можа мне пазваніць у бюро. Ён быў беластачанінам, ехаў ад бацькоў, якія жылі на вёсцы.

Уяві сабе, што пазваніў. Сустрэліся адразу ў яго. На здымку, што вісеў на сцяне, я ўбачыла яго... з сямейкай — жонкай і двума малымі сыночкамі. У мяне ў сярэдзіне ўсё пахаладзела. Ці аддалася я яму, нягледзячы на гэта? Так, вядома. Ён перада мной не хаваўся, сказаў адразу праўду. Жонку з дзецьмі адправіў на вёску (было якраз лета), дык была нагода сустрэцца. А я ж таксама бывала з хлопцамі, не чакала. Дык, прабач, ці я не магла, у свае дваццаць пяць, з кімсьці пераспацца?.. Падабаўся мне ён страшна.

Нават у першы момант я падумала, што адаб'ю яго ў жонкі. Людзі ж і кідаюць сям'ю, і разводзяцца з жонкамі... Я маладзейшая, а хто ведае, ці і не прыгажэйшая. Да таго ж — „новы твар". Усё аднак не аказалася такім простым.

З кожнай сустрэчай ён мне падабаўся ўсё больш. Я закахалася, як ніколі дагэтуль. Моцна, адчайна. Пачуццё яшчэ паглыблялася з часам, бо, пакахаўшы яго, я зразумела, што не магу яму „падлажыць свінню" і патрабаваць, каб ён развёўся.

Я перабралася жыць у Беласток, наняўшы пакойчык у пажылой жанчыны. Яна, аднак, папярэдзіла мяне: ніякіх гасцей! Што мне было рабіць?! Сустракаліся ўсюды: у сябровак, у яго (калі не было сям'і), у парку, а нават і зімою на снезе. Я ўжо не ўяўляла жыцця без яго, а ён без мяне. Гатоў быў ужо ўсё кінуць-рынуць і выехаць са мною ў іншы горад. Я не згаджалася, бо не хацела браць граху на сваё сумленне, забіраючы бацьку ад дзяцей.

Што я перацярпела, толькі я ведаю. Уначы я не магла пераносіць думкі, што я вось тут сплю адна, а ён там кахаецца з жонкай. Калісь сустрэліся ў яго, і я ўбачыла на прасціне плямкі. Былі разам! — прашыла мяне думка. І ўжо тыдзень я не мела спакою. Учора з ёю — сёння са мною! Божа, як жыць...

Найгорш было ў святы. На свае, праваслаўныя, я ехала да бацькоў. Горш было, калі ў горадзе ўсе святкавалі каталіцкія. Я ж ведала, што ў яго сёння госці, а я сяджу адна і чорныя думкі агортваюць маю душу. Не магла таксама супакоіцца, калі яны выязджалі некуды разам на адпачынак. Я зайздросціла ім кожнага дня, праведзенага разам.

Уся гэтая валакіта працягвалася каля пяці гадоў. А пасля мая сяброўка ўзяла мяне на прыватку (яго не было ў Беластоку), і я — неспадзявана для сябе — заўважыла, што ёсць на свеце іншыя мужчыны, а адзін з іх — асабліва цікавы. Мы дамовіліся сустрэцца, і так пачалося. Хадзілі паўгода, неўзабаве будзе вяселле. Я шчаслівая, а ўсё, што я перажыла за апошнія гады, здаецца мне проста сонным кашмарам. Мо не варта было ўсё ж пачынаць з жанатым, але ці ж сэрцу загадаеш...

**Аня**

Аня, даражэнькая! Маці слухацца трэба не толькі будучы дзяўчынкай. Праўда, гэты чалавек хацеў для цябе кінуць сям'ю, але ты не магла гэтага зрабіць, бо пачало цябе мучыць сумленне. Так ці інакш — з жанатым лепш не пачынаць. Ці адыдзе ад сям'і, ці застанецца з ёю — заўсёды будзе цягнуцца нейкі хвост. Нельга будаваць сваё шчасце на няшчасці іншых. Дзякуй Богу, што ў цябе ўсё яшчэ добра скончылася.

**Сэрцайка**